# ПРАЖЫТЫЯ ХВІЛІНЫ

## ВЯСНОВЫ ГАЙ

Я ўбачыў ля мястэчка
Калісь вясновы гай,
Дзе ззяла люстрам рэчка,
І гаварыў ручай.
Раслі наўкол бярозы,
Дзве ліпы, тоўсты граб,
Вярба спускала лозы
Вітала ў рэчцы жаб.
Праходзіла дарога
Над рэчкай цераз мост,
І бегла блізка логу,
Пры ім арэшнік рос.
А луг з дыванам кветак
Над буйнаю травой
На сонцы роем свечак
Блішчэў свёй красой.
І дзесь высока ў небе
Спяваў мне салавей,
За поспехі малебен
Граў вецер чарадзей.
Хадзіў я ў захапленні
Па сцежках між алей,
Глядзеў, як у праменнях
Купаўся верабей.
Крыштальным гучным тонам
Мне заспяваў ручай,
Як я пасля з фасонам
Хацеў пакінуць гай.

## МЁРТВЫЯ РУІНЫ

Па дарозе жыцця многа мёртвых руін
Я пабачыў, прайшоў і прабег паміж імі,
І астаўся ва мне аб іх розны ўспамін,
Быццам я развітаўся з сябрамі жывымі.
　　У вайну я глядзеў на пажараў агні,
　　Як навокал гарэлі дамы і палацы,
　　Як тырчэлі іх сцены пасля, быццам пні,
　　Як смяяліся вочніцы іх, як паяцы.
І я доўгі час жыў паміж мёртвых руін
І быў сведкам, як куксы змяняліся ў блокі,
Вырасталі з руін светлы дом, магазін,
Ці кварталы будынкаў прыгожых, высокіх.
　　З кожным годам змяняла аблічча сваё
　　Між руін на вачах без прыпынку Варшава,
　　Не забуду ніколі я раны яе
　　Па жахлівых крывавых нямецкіх распраўах.
Я руіны Акропаля бачыў калісь,
Як стаялі вясёлыя карыятыды,
І многа руін, дзе жылі каралі,
На пустыні егіпецкія піраміды.
　　Іх руіны былі вартавымі крыніц
　　Старадаўніх падзей у эліт нашых продкаў,
　　Захавалі ў сабе акіян таямніц,
　　І яны для гісторыкаў будуць загвоздкай.
Я сумую, як бачу руіны ўсіх хат,
Што стаяць на Падляшшы ў пустых бедных сёлах,
Больш старэч застаецца, жывых там няшмат,
Зарастаюць бярэзнікам вёскі наўкола.

## МАРШРУТЫ

Безліч  маршрутаў прайшлі мае ногі,
Безліч слядоў я пакінуў усюды,
Нават не помняць іх нашы дарогі,
Зніклі, як ноччу ў імгле ізумруды.
Часам успыхнуць яны ва ўспамінах,
Часам прыпомняцца ў сне нечакана,
Ноччу знайдуся ў забытых далінах,
Ці ў агародзе між яркіх цюльпанаў.
Я цягнікі часта помню ў маршрутах,
Многа вагонаў і ў іх пасажыраў,
Многа вакзалаў і касы з валютай,
І прадаўцоў, гандляваўшых імбірам.
Помню я віды з вакна самалёта,
Як сцюардэса давала напіткі,
І, як мне ззяў акіян пазалотай,
Хмары ў паветры бялелі, як ніткі.
Помню я розныя аэрадромы:
Дэлі, Бамбей і Калькуту на ўсходзе,
Бачыў  Ташкент, як ляцеў я дадому,
Быў у Дубаі пры пекнай пагодзе.
Толькі ўспаміны засталіся сёння,
Ногі ад старасці ныюць з пакоры,
Хата трымае мяне, як лядоўня,
Бачу чырвоныя ўздоўж светафоры.
Часам пабачу старыя  дарогі
На тэлевізара срэбным экране,
Хутка прыпомню тады маналогі
Хваляў у Індыі пры акіяне.

## ДАЛЁКІЯ ЗАРНІЦЫ

Іду ля загонаў аўса і пшаніцы,
Усюды ўсміхаюцца іх каласы,
Чароўна бліскаюць за лесам зарніцы,
Наўкол з неба птушак звіняць галасы.
    Зарніцы, як znічкі, мігцяць з шэрай хмары,
    Пад імі заззяе здалёк цёмны лес,
    Над лесам пакажуцца зверху пачвары,
    Між імі адна, як жывы геркулес.
І згіне раптоўна, згарыць у пажары,
Асвеціць зялёныя кроны дубоў,
І новая знічка засвеціць з-за хмары,
Мільгаюць за імі наступныя зноў.
    Здаецца, што лес абмінаюць зарніцы,
    Плывуць разам з хмараю ціха на ўсход,
    І цешаца птушкі, дразды і сініцы,
    Птушыны ў паветры шуміць карагод.
Ліхтар яркі сонца зыходзіць на захад,
Схавацца стараецца за небасхіл,
Ды птушкі лятаюць, не чуючы страху,
Спяваюць наўкол, не шкадуючы сіл.
    Паволі зближаюцца ціха з-за лесу
    Далёкія водбліскі яркіх зарніц,
    У птушак на небе не чуецца стрэсу
    Ад гукаў грамоў, як ад гукаў званіц.
Ды я пакідаю ўжо поле пшаніцы,
Хоць чую прыгожыя песні сініц,
Баюся, што зменяцца бліскі зарніцы
У гукі грамоў і ў агні бліскавіц.

## У ВОСЕНЬСКІМ ПАРКУ

Гуляю па восеньскім парку
Сярод залацістых лістоў,
Здалёк вераб'іную сварку
Я чую з-за шэрых кустоў.
Асенняе цёплае сонца
Кідае прамені між дрэў,
Смяецца на небе бясконца,
Каб людзі забылі свой гнеў.
Тут поўна дзяўчат на алеях,
І чуць у тырадзе іх слоў,
Што маюць у парку надзею
Знайсці хутка добрых сяброў.
Другія ў высокіх калясках
Вязуць па дарожках дзяцей,
З матчынай і цёплаю ласкай
Хваліцца прыйшлі да людзей.
А дзве з іх прыселі на лаўках,
Трымаюць малых на руках,
Даюць ім у рукі забаўкі,
Румяная ў кожнай шчака.
А побач вясёлая матка
За рукі трымае дзіцё,
І вучыць дарожкаю гладкай
Нагамі хадзіць праз жыццё.
Свае нехлямажыя крокі
Пакуль яшчэ ставіць яно,
Ды позірк яго светлавокі
П'яніц яе нібы віно.

## НАД МОРАМ

Плыві бірузоваю хваляй
Па моры хутчэй да мяне,
Хай вочы твае, як каралі,
Заззяюць мне ў хваляў сцяне,
    Вярніся з усмешкай чароўнай,
    Такою, як бачыў заўжды,
    Прыгожаю, быццам князёўна,
    Як знаў я цябе сапраўды.
Рукой памахай мне здалёку,
Мяне да сябе пазаві,
Я кінуся ў хвалі глыбока
І буду з табой візаві.
    Пачую я твой пацалунак,
    Абдымкі тваіх мілых рук
    І з сэрца твайго падарунак,
    У шуме хваль радасны стук.
Паплаваем разам у моры
У пекнай яго бірузе,
Ныраючы ў хвалі бадзёра
Глыбока ў салёнай вадзе.
    Пасля зноў на сонечным пляжы
    Мы ляжам на цёплы пясок,
    Пры ветра прыемным масажы,
    На неба скіруем своў зрок...
Чакаю, аж з'явішся ў хвалях,
Што з мора бягуць па чарзе,
Калі заблішчаць, як каралі,
Дзве зрэнкі твае ў бірузе.

## БЫВАЙ

Бывай ! – гучала  часта
Калісь у час вайны,
Адны энтузіясты
Не бачылі маны.
    І верылі, што хутка
    Прыйдуць назад дамоў,
    Ішлі ў паход без смутку,
    Аставіўшы сыноў.
А большасць у адчаі
Казала: ну, бывай!
І знала, што чакае
Іх пекла, а не рай.
    Што мусяць у зямлянках
    Праз доўгі час цярпець,
    Што куля, як маланка,
    Нясе ім раны, смерць.
Не ўсе яны шчасліва
Вярнуліся дамоў,
Не ўсе пасля цярпліва
Выхоўвалі сыноў.
    Цяпер гучыць парою
    Між маладых: бывай!
    Калі дзесь за мяжою
    Шукаюць каравай.
Тут пакідаюць часам
І дочак, і сыноў,
І на далёкіх трасах
Жывуць між чужакоў.

## ПЯЛЁСТКІ

Мы з табою вясной увайшлі ў сад прыгожы,
Як бялелі ўсе яблыні у пуху сняжынак,
Зелянелі навокал палеткі са збожжам,
Ля чарэшань унізе смяяўся барвінак.
Матылькамі на яблынях ззялі галіны
І махалі іх крыламі подыхі ветру,
Між зялёнай лістоты, як пух лебядзіны,
Адкрывалі пупышкі свае на паветры.
Ля пялёсткаў лятаі і восы, і пчолы
І вясновую радасць мы чулі ў іх гуле,
Бо тут нектару многа збіралі наўкола,
І насілі яго ўсе ў гняздо, або ў вулей.
На галінах дрэў птушкі спявалі ўсім песні,
Нам звінелі яны з шумам ветру ў галінах,
А малая сініца гняздо на чарэшні
Укладала, сядала на ім штохвілінна
Прыляцеў подых ветру раптоўна з усходу,
Як сняжынкі, пялёсткі ляцелі навокал,
Быццам снег нечакана з'явіўся ў пагоду
І абсыпаў нас белым бліскучым патокам.
І на нашы галовы і рукі, і плечы
Наляцелі пялёсткі прыгожыя з саду,
Мы такой не чакалі тут з імі сустрэчы,
Каб яны нас абсыпалі спераду, ззаду.
Мы страсалі са смехам з сябе ўсе пялёсткі.
Як у пуху сняжынак стаялі мы ў садзе,
Ты паправіла ўміг валасы і прычоску,
А навокал бялеў сад, як у снегападзе.

## У ПОЎНІ НА ДАРОЗЕ

На небе без хмар, як Жар-птушка,
Ззяў месяц над нашай дарогай,
Навокал яго, быццам мушкі,
Кружыліся зоркі з трывогай.
    Ішлі мы з табою дадому
    З вакзалу між цёмнага лесу,
    Дарогаю нам тут вядомай,
    Пад неба янтарнай завесай.
Жар-птушка ляцела над намі,
А бляскі яе залатыя
Ліліся, як хвалі цунамі,
На сосны навокал густыя.
    І часта глядзелі з тых соснаў
    Аленяў бліскучыя вочы
    У позе варожай і злоснай,
    З пытаннем, чаго мы тут хочам.
Выходзіў савы гучны рогат
З лясной і цямнеючай гушчы,
А месяц свяціў над дарогай,
Каб бачыў яе невідушчы.
    Вось купал бліснуў над царквою
    Ля ценяў крыжоў на пагосце,
    Шаша ў поўні стужкай жывою
    Вітала сваёй прыгажосцю.
За гаем цямнелі ўжо клуні,
За імі дамы нашай вёскі,
Пачулі мы голас пявунні,
Знаёмыя нам адгалоскі.

## СКАЙП

Часта мой сціплы камп’ютэр
Звоніць, як нейкі гультай,
Голасам гучным і лютым,
Каб уключыць хутка скайп.
　　Спешна ўключаю, і сябар
　　З Нью Ёрку заняў мой экран,
　　Голасна ён для прывабы
　　Кліча аж праз акіян.
Гутарым мы праз гадзіну,
Нават бясплатна зусім,
Бачу яго твар і міну,
Быццам сяджу разам з ім.
　　Мне паказаў многа здымкаў
　　Сябра свайго і дзяцей,
　　З жонкаю ў цёплых абдымках,
　　Сцэны з жыццёвых падзей.
Толькі з ім скончыў размову,
Чую грыміць зноў званок,
Скайп уключыўся нанова,
Іншы з’явіўся дружок.
　　Звоніць ён мне з антыподаў,
　　Бачу: з Зеландыі твар,
　　Холад у нас, непагода,
　　Лета там поўны разгар.
Сонца там ззяе чароўна,
Пальмы ля мора растуць,
Сёння святкуюць хэлоўін,
Можна праз скайп іх пачуць.

## ЧАКАЮ НОВЫ 2012 ГОД

Дождж голасна б’е ў шыбы вокнаў
Гарэць за шыбай ліхтары,
Няма марозу, людзі мокнуць,
Не відна месяца ўгары.
    Пражыты год адходзіць з плачам
    У вечнасць да другіх гадоў,
    Пра ўдачы нашы і няўдачы
    Пакіне мала ён слядоў.
У нас астануцца ўспаміны
Аб іх яшчэ тут нейкі час,
Пакуль у забыцці не згінуць,
Тады не будуць мучыць нас.
    Стары наш год бяжыць з усходу,
    Пакінуў Токіа, Шанхай,
    Даўно пакінуў антыподы,
    Аб чым даў знак сяброўскі скайп.
Гляджу на елку, на канфеці,
І на гатовы ўжо шампан,
Як лямпачкі на елцы свецяць,
На тэлевізара экран.
    У ім відаць, як у люстэрку,
    Што Новы год прайшоў Маскву,
    Гараць там зоркі, феерверкі,
    Агні ляцяць на мураву.
Ды вось пачуў я гук петарды,
Дзесь недалёка за сцяной.
Уцёк стары ўжо год з пагардай ...
Вітаю Новы год віном.

## У СПЕШЦЫ

Прабегла ў спешцы шмат маіх гадоў   жыцця,
Калі пайшоў у школу ў першы клас,
Вучыў урокі ў спешцы, як дзіця,
Каб адказаць настаўнікам у час.
　　Пасля ў няволю ворагі мяне
　　Пагналі праз чужыя гарады,
　　І ў спешцы мучылі на чужыне
　　Два цяжкія  ваенныя гады.
Далей я ў спешцы бегаў па палях,
Калі рой куль свісцеў над галавой,
З жалезным аўтаматам у руках,
Халоднаю і снежнаю зімой.
　　У спешцы лечыў раны мне шпіталь,
　　Каб іншым памагаў, як санітар,
　　І ў спешцы падкладаў пад іх паркаль
　　Ды абмываў з крыві іх рукі, твар.
А потым  школы зноў і інстыгут
Канчаў у спешцы і на чужыне,
І ў працы ў спешцы не адзін маршрут
Праводзіў я на цяжкай цаліне.
　　Праехаў я не мала каляін,
　　Блукаючы  па свеце, як цыган,
　　У спешцы многа я пазнаў краін,
　　Не раз сустрэў Індыйскі акіян.
Цяпер нішто не гоніць  больш мяне,
Аднак я часта сам сябе ганю,
Пражытыя дні бачу, як у сне,
Успамінаю іх, як мітусню.

## КАЛЯДЫ 2011 ГОДА

Бясснежны сумны студзень
Прынёс да нас Каляды,
Праз свята і праз будзень
Мігцеў дождж без спагады,
    Вадохрышча нам толькі
    Пух белы падарыла,
    Ды рэкі лёдам колкім
    Зіма нам не пакрыла.
У студзені нас ночы
Не страшылі марозам,
У цемры ўсюды вочы
Баяліся пагрозы.
    І месяц вельмі рэдка
    Паказваўся з-за хмары,
    Падзей не быў ён сведкам,
    На гарадскіх бульварах.
Не бачыў лямп на ёлках
Праз вокны на кватэрах,
Каб ззялі, як вясёлкі,
Гірлянды на вячэрах.
    Не чуў ён, як у храмах
    Гучалі песнапенні,
    Не бачыў у рэкламах
    Ён бляскаў і адценняў.
І сонца нават снегу
Не ўбачыла, бо хутка,
Дождж праліўны з разбегу
Глынуў яго праз суткі.

# СУСТРЭЧА НА ПЛЯЖЫ

Хаджу на пляжы блізка мора,
Да ног даходзіць мне вада,
Яна пад буйных хваль напорам
Любуецца ў маіх слядах.
Іх залівае белай пенай
І засыпае іх пяском,
Замочыць часта мне калена,
Шыпіць, што я іду пяшком.
Што сам іду пры ёй без страху,
Гляджу ў кацёл шалёных хваль
І разбіваю іх з размаху,
Змяняю пыркі ўсе ў вуаль.
Плыве ў далёкіх хвалях судна,
Блішчыць у сонцы сілуэт,
На пляжы шумным ды базлюдным
Сышліся чайкі на банкет.
Я нечакана, несвядомы,
Калі прайшоў марскі прыбой,
Пачуў крык, голас мне знаёмы,
Дзесь недалёка за сабой.
Я аглянуўся і за дзюнай
Знаёмага заўважыў твар –
Калісьці мне ён граў на струнах,
На кобзе, як стары кабзар.
Мы ехалі ў адным вагоне,
На кобзе ён мне граў тады,
Цяпер сустрэў яго ў сезоне
На пляжы, ля марской вады.

## ЖУРЧЫЦЬ ПАБЛІЗУ РУЧАЁК

Журчыць паблізу ручаёк,
Амаль пры самай галаве,
А недалёка матылёк
Сядзіць на кветачцы ў траве.
　　А я ляжу, гляджу на іх,
　　Журчанне чую ручайка,
　　І радасны прыемны ўздых
　　На пекнай кветцы матылька.
Любуюся, як ручаёк,
Бліскучай хваляю сваёй
Яскравы жоўценькі пясок
Ласкае, чысціць пад сабой.
　　Любуюся, як матылёк
　　З прыгожай кветкі п'е нектар,
　　Як крыллем робіць халадок,
　　Махае хутка, як Ікар.
Гляджу: пярэсты матылёк
Затрос маленькай галавой,
Сцягнуўшы з кветачкі сасок,
Запырхаў крыллем, як герой.
　　Уверх падняўся нада мной,
　　І ў небе згінуў угары,
　　А над маёю галавой
　　Забзыкалі два камары.
Вадой абліў я іх здалёк,
Дабіў іх потым на траве...
Ляжу далей, а ручаёк
Журчыць пры самай галаве.

## СНЕГІРЫ

Разбудзіў у вясковай сядзібе
Мяне вецер, як граў папуры,
І пабачыў я танцы за шыбай,
Там у садзе - наўсцяж снегіры.
Не пужаў іх мароз, снег і вецер,
Бо быў лютаўскі сонечны дзень,
І ад снегу іскрылася вецце,
Калыхаў імі ветру струмень.
Быццам зоркі, птушыныя вочы,
Як рубіны – ўсе іх жываты,
Зерні ягад клявалі ахвоча,
Абшукалі ўсе ў садзе кусты.
І за шыбаю з музыкай ветру
Чую свісты маіх снегіроў,
І разносіцца рэха ў паветры,
Каб замоўкнуць у гушчы кустоў.
Снегіры, што абселі рабіны,
Заспакоілі голад даўно,
І спакойна сядзяць на галінах,
Заглядаюць здалёк мне ў акно.
Прыляцелі ў мой сад сёння з лесу,
Не знайшлі ўжо там ягад яны,
І не чуюць ні страху, ні стрэсу,
Не баяцца людзей і зімы.
Як відаць, не пужае іх холад
У бязмесячныя вечары,
Заспакояць у садзе свой голад,
Ды гамоняць праз ноч снегіры.

## КНІГІ

Я з кнігай падружыў ад ранняга дзяцінства,
Калі мой бацька даў у рукі мне буквар,
Злучыла з ёй мяне маральнае адзінства,
Я з ёю праз жыццё праходзіў, як змагар.
У кнігах я пазнаў з дзяцінства ўсіх герояў,
Якія намячалі мне сляды ў жыцці.
Па іх праходзіў я ваеннаю парою,
І ведаў добра як, куды дамоў ісці.
Я з кнігі навучыўся слоў варожай мовы,
Яны мне памаглі пражыць кашмар вайны,
Намеры ворага я пазнаваў з размовы,
Таму мог скінуць з рук няволі кайданы.
А потым кнігі праз маю жыцця дарогу
Былі найлепшымі з усіх маіх сяброў,
І неслі мне ў бядзе параду, дапамогу,
І замянялі мне ў хваробе дактароў.
Яны былі маймі прыяцелямі ў школах,
Мне памаглі здаваць экзамены жыцця,
І разумець усё, што творыцца наўкола,
Не траціць у бядзе жывога пачуцця.
Яны былі праваднікамі па краінах,
Куды мяне накіраваў калісьці лёс,
Вялі яны мяне па роўных каляінах,
Каб нечакана я не трапіў дзе ў адкос.
І сёння кнігі ўсе ў маіх бібліятэках
Мне памагаюць, як найлепшыя сябры...
Бездапаможным чуўся б я без іх, калекай,
Тады б не памаглі ў хваробе дактары.

## ЧАКАННЕ

Была вясна, цвілі ўжо агароды,
Бялелі за дамамі ўжо сады
І ў гэты  час  прыгожае пагоды,
Яго паслалі ўчыцца ў гарады.
Ён два пісьмы паспеў прыслаць матулі,
І ў лета замянілася вясна.
І з  самалётаў паляцелі бомбы, кулі,
Бо пачалася грозная вайна.
Баі прабеглі побач па дарогах,
Запанавала ў вёсцы цішыня...
Хацела ўбачыць сына ля парога,
Каб мог запрэгчы ён свайго каня.
Аднак аб ім ні слыху і ні дыху
Яна не чула ад яго сяброў,
Загінуў дзесь самотна і паціху,
Не напісаў ён матцы пару слоў.
Ішлі гады і вораг, што калісьці
Ішоў на ўсход, уцёк даўно назад,
А сын  прапаў, пачула, што кудысьці
Яго пагналі, дзесь пад Сталінград.
Аднак яна не траціла надзеі,
Што вернецца дадому ён здалёк,
І прад іконай у царкве ў нядзелю
Прасіла Бога, каб прыйшоў сынок.
І раптам ліст прынеслі нечакана
Ад сына ў хату да яе дзвярэй,
Што сын яе жыве за акіянам,
Там мае ферму, жонку і  дзяцей.

## СІНІЦЫ

Адкрыліся вокнаў у сад аканіцы,
Заззяла ўжо ў хаце з-за шыбы святло,
І чую: спяваюць на дрэвах сініцы,
Сядзяць на галінах, іх бачу праз шкло.
Галоўкі іх чорныя з сінім адценнем,
А шчокі іх белыя, з жоўтым пятном,
Ды чорныя стужкі з валля па калені,
З зялёнай спіною, з блакітным хвастом.
Спяваюць і скачуць яны па галінах
З пажоўклай лістотаю яблынь і сліў,
Хоць вецер асенні ім дзьмухае ў спіны,
Я чую ў іх песнях вясёлы матыў.
У сад прыляцелі яны сёння з лесу,
Я ў садзе кармушкі павесіў ля дрэў,
Спяваюць, лятаюць па садзе без стрэсу,
З кармушак я чую вясёлы іх спеў.
І бачу, што дуплы знайшлі ў дрэвах самкі,
Унутр убягаюць, выглядваюць з іх,
Адна з іх выцягвае дзюбу, як з ямкі,
І кліча, хутчэй каб з'явіўся жаніх.
Відаць, у дупле залажыць гняздо хоча,
І голасна кліча свайго жаніха,
У сонцы блішчаць яе дзюба і вочы,
Раскошна заве, аж трасецца страха.
У сад прыляцелі ўжо іншыя птушкі,
На яблынях гуртам сядзяць вераб'і,
А смелыя ўходзяць унутр да кармушкі,
За семечкі ўміг пачаліся баі.

## ПРАЎНУК

Заззяла сонца мне праз шыбу
І разагнала ў хаце змрок,
Хоча сказаць мне нешта хіба,
Смяецца радасна здалёк.
    Ці навіну якуюсь мае,
    Каб пераслаць мне праз акно?
    Бо вельмі яркім промнем ззяе,
    Гамоніць  з ветрам за сцяной.
Каб чуць іх голас красамоўны,
Адкрыў я дзверы на балкон
І зазваніў тады раптоўна
Мне за спіною тэлефон.
    І голас я пачуў жаночы:
    „Кампутар уключы хутчэй,
    У ім твае пабачаць вочы,
    Чаго не бачыў ты яшчэ”.
З’явіўся каляровы  здымак
Малога праўнука майго,
Ляжаў з закратымі вачыма,
Прыгожы светлы  твар яго.
    Ён спаў спакойна і з усмешкай,
    На галаве меў валасы,
    Яны чарнелі аж да вушка,
    Былі дадаткам  да красы.
Чакаў яго дня  нараджэння,
Я цэлы тыдзень, кожны дзень,
А навіну яго з’яўлення
Прыслаў мне сонечны прамень.

## ПАРАДНЕННЕ З ЦІШЫНЁЙ

Мне не карцяць цяпер турботы,
Я дома чую мёртвы штыль,
Мяне не гоняць да работы,
Лятаю вольна, як матыль.
    Ды толькі сілы ўжо не тыя,
    Каб лётаць аж да хмар, увысь,
    Прайсці ўсе муштры баявыя,
    І хутка бегаць, як калісь.
Чапляюцца часцей хваробы,
Каб іх прагнаць, няма ўжо сіл,
І ўсе няшчасці робяць спробы,
Каб рэзаць сэрца сотняй піл.
    Аднак я чую незалежнасць,
    І цешаць вольнасць, цішыня,
    Цяпер не страшыць непазбежнасць,
    Якою мучыла вайна.
Стварае стымулы на старасць
Мне цішыня для творчых прац,
Якія мне не будуць карай,
Каб бавіць іншых, як паяц.
    Я парадніўся з цішынёю
    І зжыўся з ёй за многа год,
    Яна вядзе цяпер са мною
    Мой скромны творчы агарод.
Я з ёй лячу мае хваробы,
Жыву я з ёю без турбот,
Яна цяпер мне даспадобы,
Хачу пражыць з ёй многа год.

# У ЦЁМНЫМ ПАДВАЛЕ

Ці ты помніш той цёмны падвал,
Дзе ў нямецкім бязлюдным мястэчку,
Мы зімою ў парывісты шквал
Прасядзелі з запаленай свечкай?
    Дом дрыжэў ад снарадаў і бомб,
    І гудзеў за акном моцны вецер,
    Часам выў ён страшэнна, як тромб,
    То рыдаў ён і плакаў, як дзеці.
Прытулілася ты да мяне,
І зажмурыла вочы ад страху,
Я глядзеў ці па нашым акне
Тромб шалёны не ўдарыць з размаху.
    Раптам зноў загудзеў самалёт,
    Дзесь стралялі зеніткі далёка,
    Бомба ўпала ля нашых варот,
    Зашумелі асколкі навокал.
Задрыжэла ўся ў доме сцяна,
Пыл пасыпаўся раптам са столі,
Бляск знадворку зірнуў з-за акна,
І схаваўся за шыбай паволі.
    Свечка ўпала тады на кілім
    І загасла раптоўна ў падвале,
    І зрабілася цёмна зусім,
    Пры знадвору шныраючым шквале.
Як заціхла, я свечку знайшоў,
І заззяла святло, як у зале...
Прадрамалі ўсю ноч мы без слоў
З жоўтай свечкай у цёмным падвале.

## СОН

На хвіліну я лёг на пасцелі
І раптоўна прысніўся мне сон:
Я знайшоўся ў прыгожым матэлі,
Між машын і высокіх акон.
  Там сустрэў я далёкіх знаёмых,
  Пра якіх я не помніў даўно,
  І людзей мне зусім невядомых,
  Як сядзелі і пілі віно.
Я спаткаў там сяброў і сяброваk,
Хоць няма іх даўно ўжо ў жывых,
І вёў з імі ў матэлі размовы,
Аб крывавых гадах баявых.
  Гаварыў з імі там аб нагодах,
  Аб усім, чым гразіла вайна,
  І якія нясе невыгоды
  Ашуканства і ўлады мана.
Маладым чуў сябе ў гэтым часе,
Так як чуўся я з імі калісь,
Сон змяніўся: пабег я па трасе
У вайсковым маім шынялі.
  Пераскокваў у ім я акопы
  З аўтаматам зімой у руках,
  Па заснежаным полі галопам
  Бег і чуў, як балела шчака.
І мяне куля раніла лёгка,
Задрыжэла мне сэрца, як звон...
Я прачнуўся, глянуўшы з палёгкай,
Што пражыў не яву, толькі сон.

# СВЯТЫЯ КАРОВЫ

Аж тры гады амаль штодзённа
У Індыі, паміж дамоў,
На вуліцах бесцырымонна
Я сустракаў святых кароў.
Худыя, з выглядам журботным
Глядзелі смутна на людзей,
Стаялі ў групах ці самотна,
Яды, не ўбачыўшы нідзе.
Паперу елі ад лістовак,
Лісцё зрывалі нізка з дрэў.
Святыя бедныя каровы,
Не зналі, што такое хлеў.
У лівень і ў часы мусона,
Яны ўсе моклі пад дажджом,
Ніхто не плакаў па іх сконах,
Калі забіў іх недзе гром.
На дрэвах на іх смерць чакалі
З вялікай дзюбай крумкачы,
Іх хутка нежывых з’ядалі
І ўдзень, і ранкам, і ўначы,
Аднак, калі дзесь на дарозе
Лягла карова ўдзень паспаць,
Тады ніхто не быў у змозе
Яе з дарогі адагнаць.
Ніхто там не даіў каровы,
Ды мяса іх ніхто не еў,
Даілі буйвалаў здаровых,
Ім часам будавалі хлеў.

## ЛЕТНЯЯ НОЧ НА ПАШЫ

Успамінаю часта, як з табой на пашы
Правёў я летнюю пад чыстым небам ноч,
Глядзелі мы на зоркі на нябеснай чашы
І слухалі, як граюць цвыркуны наўзбоч.
Уніз ляцелі зоркі з неба, быццам свечкі,
І раставалі хутка, як бліскучы снег,
Пры нас тады ляжалі конскія вуздэчкі
І нам напаміналі з коньмі наш начлег.
А спутаныя коні фыркалі паблізу,
Шчыпаючы са смакам сочную траву,
А мы на іх глядзелі ў бляску зорак знізу,
І бачылі іх цені ў цемры наяву.
Са ўсходняй стужкі лесу паказаўся месяц,
Ён падымаў вышэй прыгожы светлы твар,
Вясёлкі арэол тады заззяў над лесам,
А месяц асвятляў луг з коньмі, як ліхтар.
Ён падымаўся ўверх, глядзеў на нас з усмешкай,
Як карабель, ён плыў між зорак угары,
Яму вядомай, выбранаю сцежкай.
І слухаў, якігралі зоркі папуры.
Глядзеў я на цябе ў яго чароўным бляску,
Прыгожы бачыў твар і радасць у вачах,
А цёплы вецер нам расказваў ціха казку,
Даносіў часта гукі з лесу пугача.
У промнях месяца ляжалі мы на лузе,
Прыемна песціліся ноччу на траве,
Твае я гукі сэрца чуў у гладкай блузе
І пах пушыстых валасоў на галаве.

## ХАНДРА

У хаце чую –  за сцяною,
Як дождж цячэ там, як з вядра,
Уладу узяў сум нада мною,
Напала на мяне хандра.
Ляжу, гляджу ўесь час на вокны,
Плывуць па шыбах струмяні,
Шкада, што ўсё  знадворку мокне,
Што ў дрэў  падмыла карані.
Чакаў я сонечнай  пагоды,
Калі паявіцца вясна,
Чакаў цяпла і асалоды,
Як ад салодкага віна.
А трэці дзень без перапынку
Я чую лівень за акном,
Агонь гарыць заўжды ў камінку,
Бо чую холад за спіной.
Я толькі рады, што да працы
Ніхто не гоніць больш мяне,
Суседзяў бачу ў дождж  на пляцы,
Як ранкм стану пры акне.
Ляжу, прыходзяць успаміны
Мне на тапчане ў час хандры,
Якія я правёў хвіліны
Калісь з сябрамі пры кастры.
Не наракаю я ніколі
На пražыты мною лёс,
Хоць у вайну не знаў патолі,
Навокал бачыў жах і злосць.

## МЫ Ў ЦІШЫНІ ГЛЯДЗІМ З ТАБОЮ

Мы ў цішыні глядзім з табою
На тэлевізара экран
І бачым, як плыве ракою
Людская кроў у акіян.
Штодзень мы бачым – гінуць людзі
Ад выбухаў гранат і бомб,
І як нявінных судзяць суддзі,
Як гарады руйнуе тромб.
Глядзім, як цешацца талібы,
Калі заб’юць чужых салдат,
І як хаваюцца за глыбы
Ад куль варожых і гармат.
Як там страляюць з верталётаў
Па іх здалёк іх чужакі,
І як стракочаць з кулямётаў
З кустоў высокіх ля ракі.
Глядзім, як многа ў землятрусах
Патраціла жыццё людзей,
Як сотні згінула індусаў
З паромам у марской вадзе.
Глядзім, як грознае цунамі
Дзесь заліло жанчын, дзяцей,
Як перад нашымі вачамі,
Прабегла тысячы падзей.
А мы ў цяпле сядзім спакойна,
Глядзім трагедыі наўкол,
На вынікі далёкіх войнаў
І на пякельны іх кацёл.

## ВОСЕМДЗЕСЯТ ШОСТАЯ ВЯСНА

Ад сну вясна ўжо абудзіла ўсю прыроду,
Гляджу, як зелянеюць дрэвы ля акна,
Вясну прымаю сэрцам, як узнагароду,
Бо гэта восемдзесят шостая мая вясна.

Вось столькі раз я сустракаў яе з дзяцінства,
І бачыў столькі раз яе ў сваім жыцці,
Перажываў я з ёю радасць і злачынства,
І не хачу яе аставіць у забыцці.

Сустрэў я многа розных вёснаў прад вайною,
Яны сялянам неслі з голадам бяду,
Галодныя не захапляліся вясною,
Калі пост мучыў іх не толькі ў сераду.

Рабочых мучылі галеча, беспрацоўе,
Людзей бяздомных бачыў сотнямі вясной,
Яны начамі часта спалі пад кустоўем,
А на падлогах у сялян штогод зімой.

Прынеслі вёсны ў час вайны наўкол пажары,
Ад акупанта смерць гразіла кожны дзень,
Бандыты блукалі між вёсак, як пачвары,
Сялян начамі смерцю страшыў кожны цень.

Тады правёў я многа вёснаў у няволі
З нас не адзін пасля вясной папаў на фронт,
І з аўтаматам бегаў па варожым полі.
І спаглядаў, ці не гарыць дзесь гарызонт.

Аб вёснах тых асталіся адны ўспаміны,
Якія хутка забываюцца людзьмі.
Ужо зацёрліся старыя каляіны,
Пясок засыпаў іх, як снег падчас зімы.

## НІЦЬ АРЫЯДНЫ

У час вайны, пад пугай Мінатаўра,
У лабірынт з мільёнамі ахвяр
Папаўся я, дзе пашча дыназаўра,
Штодзень блішчала смерцю, як ліхтар.
І там галодных нас змушаў да працы,
У лабірынце цесным праз гады,
На шыбеніцах вешаў тых на пляцы,
Хто меў калісь семіцкія сляды.
Усе шукалі ніткі Арыядны,
Як згінуў у бярлозе Мінатаўр,
Каб выйсці з лабірынта неадкладна
Туды, дзе ў цёмры ззяла віднаta.
З'явіліся для многіх перашкоды,
Якія зноў стварыў для іх Тэсей[1],
За лабірынтам ставіў загароды,
І перасследаваў іх, як кашчэй.
Ён адабраў ім ніткі Арыядны
І не вярнуліся яны дамоў,
Ці ў іншых лабірынтах ён зларадна
Іх пратрымаў праз некалькі гадоў.
Мяне змушаў таксама бегаць спрынтам
На фронце цераз поле, цераз лес,
І я дамоў вяртаўся з лабірынта
Праз Вільню, Менск, Бабруйск, праз Гомель, Брэст.
Сябры мае памерлі на чужыне,
Іх не пусціў дамоў пасля Тэсей,
Затрымаў іх ён у сваёй краіне,
Пакінуць змусіў жонку і дзяцей.

[1]Тэсей – у старажытнаў грэцкай міфалогіі – цар Афін,
які забіў Мінатаўра.

# Я ВЯРНУСЯ

Я бачу смутак у тваіх вачах,
Бо еду я ў далёкую вадроўку...
Я ў сне з табою буду па начах,
Пашлю штодня табе маю паштоўку.
Будзь пэўна, што вярнуся да цябе,
Як скончыцца вандроўка па чужыне,
Я хутка прылячу, як верабей,
Каралі прынясу табе з бурштыну.
З табою кожнай ноччу буду ў сне,
Тваім найлепшым мужам і каханкам,
Каб помніла заўсёды пра мяне,
І аб усіх сямейных абяцанках.
А днём успомніш наш жыцёвы час
І нашы падарожжы і забавы,
І што калісьці сустракала нас,
Якія перайшлі мы пераправы.
Тады пачуеш, што наш новы шлях
Даваць нам будзе многа асалоды,
І час разлукі праляціць, як птах,
Падчас кароткай летняй непагоды.
І я вярнуся да цябе тады,
Закончыцца кароткая разлука,
Якая быццам летам халады,
Праскочыць хутка без тугі і мукі.
І будзем разам цешыцца сабой,
Пакуль не клікне новая вандроўка,
Тады ізноў расстануся з табой,
Каб тут з табой сустрэцца зноўку.

## ПЛАНЕТА ЛЕТУЦЕННЯ

Калісь прыснілася мне ранкам,
Што я блудзіў сам па сусвеце,
І напаткаў неспадзяванку
На нейкай радужнай планеце.
Там я сустрэў людзей шчаслівых,
Якія ў садзе з дрэў міндалі,
Дзе яблыкі раслі і слівы,
Зусім варожасці не зналі.
Наўкол пладоў было даволі,
Не зналі, што бывае голад,
Не чулі заздрайсці ніколі,
Не мучыў іх ніколі холад.
Там не было жары, ні буры,
Ні ліўняў з бліскавіцай, з громам,
Ні землятрусаў, ні віхуры,
Ніхто не страшыў у харомах.
Дабро там толькі зналі людзі
І не было ў іх зла ў паміне,
Яны не чулі аб прастудзе,
Там не хварэў ніхто ў краіне.
Кахаліся заўжды з сабою,
Каханнем моцным і ўзаемным,
Не зналі кражы ці разбою,
І эпізодаў непрыемных.
Здавалася, што я ўжо ў раю
Жыву ў чароўным захапленні,
Не мог паверыць, і ў адчаю
Прачнуўся хутка ад здзіўлення.

## РАССТАВАННЕ

Расстаюся я сёння з табою
І не ведаю ўласнага лёсу,
На чужыну ў нямецкім канвою
Паплыву я, як яхтай матросы.
А мажліва сустрэне нас бура,
І затопіцца яхта на моры,
Ці ваенная схопіць віхура.
Гнаць нас будзе па дзікай прасторы.
Ды расстанемся з добрай надзеяй,
Што жывымі аставіць нас вораг,
Што мая па вайне адысея
Не закончыцца бурай на моры.
Што знайду я там ніць Арыядны,
І яна мне пакажа дарогу,
І спаткаю цябе ў дзень калядны,
І з табою падзякую Богу.
Белы снег будзе цешыцца з намі,
Як на санях паедзем галопам,
Па дарозе ў царкву між палямі,
Ля засыпаных снегам акопаў.
І тады можа ўспомнім у жартах
Наша сённяшняе расставанне.
Так што вельмі журыцца не варта,
Трэба верыць у наша спатканне.
Пацалуемся на развітанне,
Каб пасля ўспамінаць гэты вечар,
Хай нам сённяшняе расставанне
Дасць надзею ў жыцці на сустрэчу.

## МАЎЧАЦЬ ТЭЛЕФОНЫ

Маўчаць тэлефоны сяброў,
Маўчаць тэлефоны сябровак.
Ад іх я ўжо многа гадоў
Не чуў прывітальнага слова.
Калісьці амаль кожны дзень
У трубцы я чуў іх навіны,
Іх голасу гучны струмень
Мне радасцю поўніў хвіліны.
Пасля касаваў па чарзе
Я іх нумары ўсе ў блакноце,
Як вецер сціхаў па пурзе,
Яны замаўкалі ў самоце.
Бо многіх няма ўжо ў жывых,
Забрала хвароба ці старасць,
А іншым зноў цень векавы
Святло закрывае, як хмара.
Даўно ўжо не бачу сяброў,
З якімі хадзіў я да школы
Прайшло ўжо дзесяткі гадоў,
Як я сустракаў іх вясёлых.
Званілі калісь да мяне,
Як свята было ці нядзеля,
Будзілі мяне часта ў сне,
Калі я ляжаў у пасцелі.
Не чую ўжо іх многа год,
Даўно спяць яны на пагосце...
У сне бачу іх карагод,
Мяне запрашаюць у госці.

## ПРЫПОМНІ НАШ ДОМІК

Прыпомні наш домік з верандай на мора,
Навокал яго быў вясёлкавы сад,
На дом пазіралі высокія горы,
На яблыні, грушы і на вінаград.
Будзілі нас ранкам вясёлыя птушкі,
Якія пасля нам спявалі ўвессь дзень,
На дрэвах віселі для птахаў кармушкі,
Штодзень гаспадар ім там сыпаў ячмень.
На моры шумелі ўсю ноч з мора хвалі,
Якія штораніцы гойдалі нас,
Пасля мы на сонцы з табой загаралі,
Чакалі, аж прыйдзе абедзенны час.
Як сонца гарачымі промнямі ззяла,
Сядзелі мы ў ценю, дзе быў халадок,
Ці мора ў жамчужнай вадзе нас купала,
А потым выкідвала нас на пясок.
Любілі мы слухаць марскія прыбоі,
Як мора іграла нам струнамі хваль.
Мы ціха сядзелі ў абдымках з табою,
Калі ўздоўж спяваў і звінеў літараль.
Пасля перажытых пагрозлівых штормаў,
Пасля ўсёй жыццёвай наўкол мітусні
Пачуліся мы там свабодна, прасторна,
Забылі аб клопатах і бегатні.
Тады адпачылі не толькі ў нас целы,
Мая і твая адпачыла душа.
Мы доўгі час чулі марскія капэлы,
Чароўныя гукі звінелі ў вушах.

## СУСТРЭЧА

Я не бачыў цябе больш, як двадцаць гадоў
І ў Варшаве сустрэліся мы нечакана,
Мы гулялі калісь між  паўднёвых садоў,
А пазнала мяне ты цяпер ля фантана.
        Праз гады  лёс змяніў  нашы твары зусім,
        Нарабіў нам дзесяткі  штрыхоў і баразнаў,
        Я здзівіўся, што ты мне прыпомніла Крым,
        Як купаліся ў моры мы вечарам позна.
Як мы з кацера ў шуме глядзелі здалёк
На Лівадзію, Ялту, на Крымскія горы,
Як прыходзілі  мы на  гарачы   пасок
Загараць ля гасцініцы Ялты ля мора.
        Як мы ездзілі разам у Бахчысарай,
        Аглядалі палац і гарэмы султана,
        Дзе ён жонак дзесяткі калісь меў, гультай,
        І там здымкі рабілі для нас ля фантана,
А цяпер ты прыехала з Гданьска сюды,
Пахадзіць, паглядзець магазіны Варшавы,
І пазнала мяне, хоць прайшлі ўжо гады,
Як на Крыме я чуўся бадзёрым і жвавым.
        У кавярні пачуў ад  цябе  я аднак
        Пра тваю ўсю сям'ю, пра тваі  ўсе прыгоды,
        Што ўжо муж твой памёр, што,цяпер ты – адна,
        Што аставілі дзеці цябе назаўсёды.
Што яны дзесь жывуць у краіне другой,
Прысылаюць аднак для цябе дапамогу,
І што помніш той час, як была ты са мной,
За хвіліны  на Крыме ты дзякуеш Богу.

## У АБДЫМКІ ШАЎКОВАГА ГАЮ

У абдымкі шаўковага гаю
Па дыване зялёным іду,
Мне здаецца, што там, як у раю,
Асалоду і радасць знайду.
    Промні сонца мне сцелюць дарогу,
    На падмогу мне клічуць гасцей,
    Як дайду ў гай без іх дапамогі,
    Быццам кветка, душа зацвіце.
На дарозе між вербамі рэчка –
У няволі густых каранёў,
Стужкай яркай плыве да мястэчка,
Да чырвоных цагляных дамоў.
    А я крылаў не маю, як птушка,
    Не магу праляцець праз яе,
    Люстраная між вербамі стужка
    Па дыване прайсці не дае.
Чую пахі з шаўковага гаю,
Чую ў вуснах бярозавы сок,
Як дайсці да яго, я не знаю...
Раптам бачу між вербаў масток.
    Хоць ён вузкі, як шэрая кладка,
    Ды па ім я прайду праз раку,
    Адгадалася хутка загадка,
    Трэба толькі прайсці па лужку.
Трэба будзе сысці мне з дывана,
Бо масток палажылі ўбаку,
І шчаслівa яшчэ сёння ўранні
Я да гаю прайду праз раку.

## ЗНОЎ  У  ЛЕСЕ

Я  зноў у  лесе ў ценю сосен,
Зялёны пад нагой дыван,
Хаджу і ўспамінаю восень,
Калі сустрэў тут  партызан.
Ад нас тады быў фронт далёка,
Амаль пад самаю Масквой,
Лілася ў поўдзень з неба спёка,
У ценю хвой над галавой.
Яны ў армейскіх гімнасцёрках,
Адзін з вялікім  рукзаком,
Другі ў руках трымаў вінтоўку,
Ішлі між дрэвамі гуськом.
Я бутэрброды даў ім з шынкай,
Якія меў тады з сабой,
Яны пайшлі сваёй сцяжынкай
І памахалі мне рукой.
Дзесь мелі схованку ў тым лесе,
Маглі зямлянку мець сваю,
А ў ёй не грэла паднябессе,
Ды лепш было, як у баю.
Цяпер асталіся ўспаміны
Аб пражытых днях вайны,
Бо заraслі даўно сцяжыны,
Дзе гналі нас у кайданы.
Бо забываюцца кашмары,
Якія людзі пражылі,
Расстрэлы, выбухі, пажары
І ўсё, што бачылі калісь.

## ВЯСКОВАЯ СПЯВАЧКА

Ішоў я між збожжа вясковай сцяжынай,
Да грушы здалёк скіраваў я свой крок,
Вясковую ўбачыў пад грушай дзяўчыну,
Якая пляла з розных кветак вянок.
І раптам пачуў я чароўныя гукі,
Якія ад грушы мне ветрык прынёс,
Спявала дзяўчына пра горыч разлукі,
Пра вельмі няшчасны каханага лёс.
Яе дзіўны голас мяне заварожыў,
Пад музыку ветра гучаў ён, як звон,
Ён з шумам пшаніцы зліваўся прыгожа,
Чароўным акордам ляцеў праз загон.
У голасе чуў я мелодыю гусляў,
Калі па іх струнах шалее рука,
Злівалася песня дзесь з клёкатам бусла,
Якога паблізу гасціла рака.
І раптам замоўкла яна на хвіліну,
Адзін толькі вецер паціху шумеў,
Убачыў, як кветак нарвала дзяўчына,
З-пад грушы пачуў я зноў радасны спеў.
І зноў заспявала вясёлую песню,
Як вельмі кахала калісь пастуха,
А потым сустрэла яна напрадвесні
У лесе сасновым свайго жаніха.
Што разам паедуць яны на вяселле,
Бо шдюб іх адбудзецца хутка ў царкве,
А потым чакае іх дзесь наваселле,
І кветкі ля дома ў зялёнай траве.

## ПІЛІГРЫМКА Ў МЕККУ

Сустрэў пілігрымаў калісь на дарозе,
Здавалася мне, што я бачу міраж,
Бо кожны з іх крочыў у згорбленай позе
З індускіх мячэцяў у Мекку на Хадж.
На тварах маршчыны, а ногі ў сандалях,
І сціплыя клункі на іхніх плячах,
Гуртом па дарозе плылі, быццам хваля,
Як іскры гарэлі іх зрэнкі ў вачах.
Наперад ішлі, а ад поту на тварах
Блішчэў цёмным колерам мокры загар,
Над імі бялела нябесная чара,
З якой зверху пражыў іх сонечны жар.
Пяском вецер часта ім сыпаў у вочы,
Сціралі яго пілігрымы рукой,
Ішлі цэлы дзень так да самай паўночы,
Аж месца знайшлі на начлег над ракой.
Маглі там памыцца, напіцца вадзіцы
І нешта для ежы зварыць на агні,
Ішлі так на ўсход праз чужыя граніцы,
Паволі міналі ім ночы і дні.
У клунку хавалі іхрам: два палотны,
Яны выглядаюць, як белы халат,
У ім да Каабы пускаюць ахвотна,
Калі ўжо зышоў хтось з гары Арафат.
У клунках таксама трымалі каменне,
Кідалі яго, каб забіць сатану,
Якога не бачылі там са здзіўленнем,
Ды верылі, што ён залез за сцяну.

## ПІСЬМЫ

Вылятaлі, як птушкі з гнязда,
Многа пісьмаў напісаных мною
І шукалі ў чужых гарадах
Адрасатаў за тоўстай сцяною.
Першы раз паляцелі ў вайну
Да бацькоў, да сябровак з няволі,
Вестку ў іх перадаў не адну
Як я мучыўся ў путах нядолі.
Потым фронт з шчыльнай сеткай сваёй
Горшы быў ад варожай цэнзуры.
Два гады за ваеннай сцяной
Замест пісьмаў быў гук з амбразуры.
Як згубіў я свае кайданы,
То ўсе пісьмы, як птушкі ў пагоду,
Паляцелі на подых вясны
Адрасатаў шукаць між народу.
Ды ляцелі не толькі на ўсход,
А на захад, на поўдзень, на поўнач,
Часта ім памагаў параход,
Як палёт замарыў іх раптоўна.
Я пісаў свае пісьмы тады
Не адной мною выбранай мовай,
Бо ляцелі яны ў гарады,
Дзе гучалі замежныя словы.
Не баяліся пісьмы зімы,
Ні асенніх дажджоў, ні вясёлкі,
Каб сабраць іх, то кнігаў тамы
З іх стаялі б у шафе на полках.

## СОН АБ ЮНАЦТВЕ

У сне сёння ў мяккай пасцелі
Адчуў я сябе юнаком,
Прыгожа адзеты ў нядзелю
Ішоў у царкву я пяшком.
        Навокал маёй вузкай сцежкі
        У сонцы жаўцелі палі,
        Глядзелі мне ў вочы з усмешкай
        Валошкі, што побач цвілі.
Сустрэла мяне многа кветак
На лузе, якім я прайшоў,
Я помніў тут кожны палетак,
Барозны навокал і роў.
        Здалёк бачыў родную вёску,
        Такой, як калісьці была,
        Дамы з саламянай прычоскай,
        Ля кожнага дома мятла**.**
Далей напаткаў я на пашы
Кароў і пры іх пастушка,
Які там сядзеў і еў кашу,
І чэрпаў яе з кацялка.
        На небе спявалі мне птушкі,
        Трымцела ў траве страказа,
        Гудзелі, кружыліся мушкі,
        Крычала далёка каза.
І раптам звінець стаў чароўна
З высокага купала звон,
Прачнуўся тады я раптоўна,
Са смуткам, што гэта быў сон.

# Я ЗАЎСЁДЫ ВЯРТАЎСЯ ДАМОЎ

Я калісьці вярнуўся дамоў
У вайну пасля доўгай няволі,
Хоць блукаў, мусіў бегаць зімой,
Між траншэй па заснежаным полі.
Хоць мяне зацягнулі на ўсход
Цераз Вільню і Менск да Бабруйска,
Я вяртаўся адтуль у абход
Па паўднёвай зямлі беларускай.
Ехаў я цераз Гомель і Брэст,
ЦягнікОм аж да роднай крыніцы,
Мне памог пагранічніка жэст
Аднаму пераскочыць граніцу.
Я пасля кожны год з-пад Нявы
Пераскокваў яе ўжо свабодна,
Каб сустрэць дома крэўных жывых,
Зноў пачуць смак жыцця ў хаце роднай.
А калі інжынера дыплом
Я атрымаў зімой над Нявою,
Лёс мне хутка знайшоў новы дом
І мяне акружыў ён сям'ёю.
Да яго я з далёкіх краін,
Як дзесь ехаў, вяртаўся заўсёды,
Не адзін напісаў я ўспамін
Аб сваіх падарожжах, прыгодах.
Заглядаў я і ў родны свой дом,
Нават часта, як быў я здаровым.
Дзе калісьці я бегаў пяшком
Па палях, па лугах, па дубровах.

## УЛАНЫ

Калісьці ў дні юнацтва,
Да вёскі нечакана
З'явіліся  знянацку
У летні дзень уланы.
        Іх эскадрон на конях,
        У залатых страмёнах,
        І з пікамі ў далонях,
        Прыехаў у пагонах.
І  збоку шаблі ў ножнах,
І ўсе ў канфедэратках,
Ад конскіх ног іх грозна,
Дрыжала ўся брусчатка.
        Іх  чорныя халявы
        Паблісквалі на сонцы,
        А коні грывай жвава
        Траслі пры іх бясконца.
І з хат павыбягалі
Глядзець сяляне, дзеці
Як пікаў лес  са сталі
У сонцы ярка свеціць.
        І босыя сяляне
        Глядзелі з захапленнем
        На боты ў добрым стане,
        На сёдлы, на адзенне.
На коней іх буланых
З бліскучай  шэрсцю ў сонцы.
Бо першы раз уланаў
Пабачылі мы ў вёсцы.

# ІЗНОЎ ХАЧУ СУСТРЭЦЬ ЦЯБЕ

Ізноў хачу сустрэць цябе,
Нацешыцця ў тваіх абдымках,
І плыць з табой, як карабель,
Між хваль жыццёвых без прыпынкаў.
        І бачыць у тваіх вачах
        І цеплыню, і асалоду,
        Каб для мяне, як гледача,
        Былі яны узнагародай.
Каб музыку ў тваіх грудзях
Тваё мне сэрца грала гучна,
Каб па вядомых нам слядах
Плысці ў жыцці было нам зручна.
        Сустрэцца зноў хачу з табой,
        Між кветак на чароўным лузе,
        Дзе сонца свеціць над ракой,
        І ззяе ўсё, як у жэмчузе.
Каб танцавалі мы на ім,
Кружыліся на цёплым ветры,
А кветак радужны кілім
Зваў гучных птушак у паветры.
        І ў бляску сонца мы ўдваіх
        На крылах нашага жадання
        Прыроды чулі цёплы ўздых
        Для нашага тады кахання.
Спяшай хутчэй зноў да мяне,
Чакаю я з табой сустрэчы,
Выглядваю цябе ў акне...
А за акном сляды пустэчы.

# ПРЫВАБНАСЦІ ПРЫРОДЫ

## РАССЕЯЛІСЯ ВОБЛАКІ Ў БЛАКІЦЕ

Рассеяліся воблакі ў блакіце,
Заззяла неба яркай бірузой,
Смяецца сонца радасна ў зеніце,
Шукае ў парку птушак пад лазой.
Схаваліся яны туды ад сцюжы,
Якая іх пужала трэці дзень,
Цяпер ад снегу робяцца калужы,
Яшчэ бялее снег, дзе відны цень.
Ды хутка пацяплела ўсюды ў парку,
Пачуўся ветра цёплага павеў,
Вавёркі з дуплаў выбеглі і шпарка
Ганяюцца па дрэвах і між дрэў.
Зашчабяталі вераб'і ў галінах,
Пры іх вавёрка стала на дыбы,
Вада па снезе ззяе ў каляінах,
І да яе прыбеглі галубы.
І п'юць ваду і бегаюць па сцежках,
Клююць, шукаюць крошак ці зярнят,
Буркуюць шумна ў хуткіх ў перабежках,
Спяшаюцца ўсе смачнае з'ядаць.
І паказаліся жанчыны на алеях,
А нейкія з каляскамі, з дзяцьмі,
Глядзяць на неба з пэўнаю надзеяй,
Што сёння ўжо яно не загрыміць.
Блакіт празрысты захапіў нябёсы,
Над намі ён плыве, як акіян,
Не здольны сёння ён тварыць дзівосы,
Нябёсы сёння шчасце дараць нам.

## ДЗЯЎЧАТАМ НА ІВАНА КУПАЛУ

Пусціце ў ваду свой вянок,
На свята Івана Купалы,
Кіруйце за ім кожны крок,
Глядзіце ўвесь час вельмі дбала.
    Калі ён плыве, то за ім
    Сачыце ля берага рэчкі,
    Ці свецяць, не гаснуць зусім
    Яго каляровыя свечкі.
Няхай вам трава, як кілім,
Ласкоча разутыя ногі,
І сілы магічнай уздым
Вам будзе чароўнай падмогай.
    Калі паплыве ваш вянок,
    То хутка ў вас будзе вяселле,
    Вам трэба пячы піражок,
    А потым чакаць наваселля.
Шукайце навокал тады,
Які кавалер будзе мужам,
Напэўна пакажа сляды
Вам папараць яркаю ружай.
    Знайдзіце яе, дзе расце
    У лесе далёка ад рэчкі,
    Там папараць вам зацвіце
    Прыгожым агеньчыкам свечкі.
Яна ўміг скіруе ваш крок
Туды, дзе чакае каханы,
Ідзіце, пусціце вянок,
Бо сёння Івана Купалы.

## МУЗЫКА ВОСЕНІ

Па дахах кроплямі дажджу
Стукоча восень нам бясконца,
Адзела неба ў паранджу,
За ёй схавала позірк сонца.
А вецер, быццам хуліган,
Як п'яны, скача між дамамі,
Пужае нас, што ураган
Засыпле хутка ўсіх снягамі.
Лістоту ён зрывае з дрэў,
Яе ганяе для забавы,
За вокнамі ягоны спеў,
Змяняе тэмбры і актавы.
Губляе золата лісцё,
Янтар пакрыўся чорнай сажай,
Галіны плачуць, як дзіцё,
Па страце летняга багажу.
Іграе восень у акне,
Ад ветру звоняць шыбы ў хаце,
Чуваць – танцуе па сцяне,
У ботах цяжкіх на канаце.
Кідае ў шыбы ручаі
Дажджу з-пад нізкай чорнай хмары,
А на галінах вераб'і
Шумяць, крычаць, як на базары.
Нясуцца за сцяной наўкол
Асенняй музыкі акорды,
Без песні птушак, шуму пчол
Яны ў прыродзе б'юць рэкорды.

## АСТРЫ

Між звялых зёлак дождж асенні
Абмыў у агародзе астры,
Яны смяюцца ў хмарах ценю
Адценнем светлым алебастру.
Яны квітнеюць, хоць нябёсы
Глядзяць на іх халодным зрокам,
Хоць на іх  хмары-ваданосы
Заўзята льюць ваду патокам.
Хоць дождж і  восень сее смутак,
Я цешуся, як бачу кветкі,
Нясуць вяселле ў мой закутак,
Яны майго вяселля сведкі.
А да таго – калі са мною
Глядзіць прыгожая жанчына,
Калі з усмешкаю жывою
Мяне пахваліць: малайчына!
Калі яе я бачу вочы,
Як твар бялее алебастрам,
А ў валасах яе жаночых
Цвітуць прышпіленыя астры.
Тады не будуць страшыць хмары
Пагрозай  быць у псіхіятра,
Глядзець мы будзем, як на чары,.
На пекныя ў гародзе астры.
Пасля ў нас будуць успаміны:
Як пры асенняй мы пагодзе
Цудоўна правялі хвіліны
Між астраў дзесьці ў агародзе.

## ДЗЕЦІ З ГРЫБАМІ

Схаваўся ўжо за гаем
Чырвоны сонца круг,
Змрок ціха набягае
На поле, лес і луг.
Далёкі, быццам рэха,
Ляціць з-пад вёскі спеў,
Дзіцячыя дзесь смехі
Чуць з лесу, з хвойных дрэў.
Збіралі дзеці ў лесе
Да вечара грыбы,
Іх смехі ў паднябессе
Ляцяць, як галубы.
Ідуць, як дзесь з забавы
З вярэнькамі ў руках,
Ад скошанай атавы
Прыемны чуюць пах.
Бо пахі польных кветак
І скошанай травы,
Ды цёплы вечар лета
Быў шчасцем для дзятвы.
Калі на небе зоркі
З'явіліся ў імгле,
Віталі іх падворкі
У родным іх сяле.
Прынеслі кожны ў хату,
Спакойна, без хвальбы,
Як нейкія дукаты,
У кошыках грыбы.

## У СНЕЗЕ РОДНАЯ ВЁСКА

У снезе ўтапілася родная вёска,
Тырчаць толькі ў белі рады каміноў.
І з кожнага коміна шэрай палоскай
Да неба плывуць сотні яркіх дымоў.
        Карцінкамі вокны мароз упрыгожыў,
        Глядзяць яны белай разьбою на свет,
        Любуецца кожны далёкі прахожы,
        Як кветкавы бачыць на шыбах букет.
Бялеюць на дрэвах усюды галінкі,
Папахамі белымі ззяюць сады,
А вецер над імі танцуе лезгінку,
Спявае ім песні, як бард малады.
        Ён з ягад чырвоных на зграбнай рабіне
        Старанна ўжо скінуў бялеючы снег,
        Яны – як каралі, вісяць на дзяўчыне,
        І чуюць дзіцячы і радасны смех.
За пунямі бачаць – з'язджае на санках
З гары, адкуль сыплецца летам жарства,
У цёплай адзежы і ў шапках вушанках
Са смехам і крыкам ад ранку дзятва.
        Бабры залілі тут вадою луг цэлы,
        Цяпер замяніў яго ў люстра мароз,
        На слізганцы ездзіць гурт хлопцаў спацелых
        І кожны з іх чуецца, як віртуоз.
Вароны высока сядзяць на таполях
І каркаюць голасна з самых вяршынь,
Бо вельмі не цешыць іх бель наваколля,
Калі спаглядаюць яны ўдалячынь.

## ЗЮЗЯ ІМЧЫЦЦА

Задрамаў зімой Ярыла,
Выкарыстаў Зюзя час,
Прымарозіў коням крылы
І памчаўся, як Пегас.

Мчыцца тройкай, быццам віхар,
Сыпле снегам з-пад капыт.
Многа ў вёсках з жалю ўздыхаў,
Бо змяніўся каларыт.

Чуем гукі ў небе санак,
Як скрыпяць іх палазы,
Як прыходзіць новы ранак –
То мацнеюць маразы.

Ён ляціць над полем, лесам,
Над далінай і гарой,
Заражае страхам, стрэсам
І людзей, і ўсіх звяроў.

Уцякаюць людзі скора,
У свае дамы знутры,
Ад марозу ў лес і ў норы
Зноў хаваюцца звяры.

Нават сонца ў дзень пагодны
Не стрымае ўжо яго,
Зюзя чуецца свабодным,
Самым моцным між багоў.

Лётаць будзе ў студзень, люты
І сустрэне сакавік,
Цешыцца, як лёдам скуты
Бачыць горны ледавік.

## НЕ СУСТРЭЎ

Не сустрэў у жыцці я ніколі,
Двух дакладна аднолькавых дзён,
Як між розных загонаў на полі,
Не знайшоў такі самы загон.
    Кожны дзень будзе іншы заўсёды,
    Ад другога пражытага дня,
    Нас чакаюць другія прыгоды
    І другая зляціць мітусня.
Заўтра прыйдзеш са мной на спатканне
Ты напэўна ў сукенцы другой,
Будзе іншае ў нас прывітанне,
Бо ў цябе будзе іншы настрой.
    Заўтра іншая будзе пагода,
    Нас захоча сустрэць твой нябож,
    Бо зрабіла сюрпрыз нам пагода –
    Сёння зранку ідзе дробны дождж.
У жыцці я не бачыў ніколі
Дзвюх аднолькавых астраў ці руж,
Хоць прыгожа цвітуць у няволі
І баяцца спякоты і сцюж.
    У жыцці не сустрэў я ніколі
    Двух аднолькавых з віду людзей,
    Дзвюх аднолькавых з віду таполяў,
    Двюх аднолькавых рыб у вадзе.
Не сустрэць двух аднолькавых нават
Аднаяйкавых з роду блізнят –
Будуць розніцца, хоць не яскрава,
Каб іх можна было распазнаць.

## ГАЛАСЫ ЗІМЫ

Заінелі ўсе дрэвы ўжо ад холаду
І з неба паляцеў іскрысты пух,
Зіма над полем, вёскамі і горадам
Раскінула бялёсы свой фартух.
    Галіны голыя жывымі струнамі,
    Дрыжачымі, сустрэлі дух зімы,
    Над хатамі іграюць і над клунямі,
    Іх слухаюць вясковыя дамы.
Ім вецер памагае гучным голасам,
І чуецца супольны іх аркестр,
А незмалочаныя збожжа коласы
У клуні думаюць, што ім спявае лес.
    Зіма абрыдне людзям, нават вожыкам,
    Якія ў сне зімой вядуць жыццё,
    Усім зімовая дакучыць музыка
    З яе рыданнем і з яе выццём.
Як з’явіцца зіма да ўсіх завейная,
Як воўк завые грозна за сцяной,
Тады ўсе будуць жыць з адной надзеяю,
Каб замянілася зіма вясной.
    Чакаць тады ўсе будуць з нецярплівасцю,
    Калі заглохнуць галасы зімы,
    Яны пачуюць з радасцю і з міласцю
    Вясеннія дажджы і з хмар грамы.
Калі на небе яркаю паходняю
Заззяе сонца, прынясе цяпло,
Падораць птушкі музыку свабодную,
Яе пачуе кожнае сцябло.

## ДАЖДЖЫ

Сцякае час мой кроплямі за вокнамі,
Бо тыдзень за сцяной ідуць дажджы,
Дах драпаюць галіны ўсе намоклыя,
Высокіх дрэў, і дом ад іх дрыжыць.
    Плюскочуць  і шыпяць дажджы гадзюкамі,
    Здаецца, пералезуць праз  сцяну,
    Нас страшаць з-за яе сваімі гукамі,
    Пужаючы  чаканую вясну.
Б’юць кроплі за акном па брудных лужынах,
Падскоквае, шуміць у іх вада,
Паўстала ад дажджу іх многа тузінаў
У розных ямках і чужых слядах.
    Вось вецер прыляцеў махаць галінамі,
    Рой кропель іх з дажджом ляціць на  дах,
    І ўніз сплываюць хутка каляінамі,
    Струмені іх знаходзяць новы шлях.
Звініць акно мелодыяй агорклаю,
За шыбай чуецца жалобны плач,
Сядзіць за ёю з скрыпкаю намоклаю,
Плаксіва граючы, якісь скрыпач.
    Ён за акном усю сваю мелодыю,
    Сыграўшы з песняй ветру між галін,
    Змяніў раптоўна з плачу на пародыю,
    Каб адагнаць журбу і цяжкі сплін.
І сонца паказалася між хмарамі,
Каб абвясціць з-пад неба навіну:
Ужо канчаюцца дажджы з  кашмарамі,
Бо заўтра ўсе сустрэнуць зноў  вясну.

**БЕЛЬ**

Прыйшла раптоўная зіма
І ўсё навокал пабялела,
Бялеюць дахі на дамах,
Снег іх фарбуе светлым мелам.
        Цярушыць зверху белы пух
        З-пад белага над намі неба,
        І белы снегавы кажух
        Прыкрыў траву, на полі глебу.
Бялеюць стужкамі лясы,
Бялеюць снежным пухам дрэвы,
У гонар белай іх красы
Чуць ветру радасныя спевы.
        У вёсках шэрыя платы
        Надзелі белыя халаты,
        На слупах белыя драты
        Бягуць цішком да кожнай хаты.
На шыбах крэйдаю мароз
Сялянам піша ўсюды пісьмы,
А вецер, шумны віртуоз,
Чытаць іх прымушае свістам.
        Бялеюць яблыні ў садах,
        А з імі разам грушы, слівы,
        Бялеюць паркі ў гарадах,
        З дрэў белыя звісаюць грывы.
Дзесяткі белых галубоў
Шукаюць ежы на алеях,
Між снежных шапак і чубоў,
Якія намяла завея.

## ПА ВОСЕНЬСКАЙ АКВАРЭЛІ

Па восеньскай прыгожай акварэлі
Малюе снежнай фарбаю зіма.
Наўкол усё заззяла ў яркай белі:
Лугі, палі і дахі на дамах.
　　Сарвала залацістую лістоту,
　　Якую малявала восень нам,
　　І кінула яна яе ў балота,
　　Павесіўшы пушысты снежны хлам.
Зялёную траву на кожным лузе,
Засыпала ўсю пухам снегавым,
І, як барозны доўгія па плузе,
Пакінула глыбокія равы.
　　Свабодную ваду ў азёрах, рэках
　　Затрымала і замяніла ў лёд,
　　Закрыла іх ад сонца снежным векам,
　　Не дапускае рыбам кісларод.
І з дапамогай ветранай завеі
У вёсках засыпае снег сады,
У парках закідае ўсе алеі,
Малюе снежнай крэйдай гарады.
　　У лесе снегу поўна на дарогах,
　　Не маюць зверы ежу дзе шукаць,
　　Прымерзнуць да зямлі ім часта ногі –
　　Становяцца ахвяраю ваўка.
Зіма малюе снегам у марозы,
А мае фарбу белую, адну...
І ў лесе нават белыя бярозы,
Чакаюць нецярпліва зноў вясну.

## ПАД ЭГІДАЙ ЧАСУ

Пульсуюць на небе ўвесь час цэфеіды,
То гаснуць, то свецяць чароўным святлом,
Сусвет наш знайшоўся пад часу эгідай,
Усім час кіруе магутным жазлом.
Час пхае сузор'і ў бяздонне сусвету,
І іх паглынае прасторны пустыр,
Між імі лятаюць з хвастамі каметы,
Дарогамі часу барозняць эфір.
Залежаць ад часу і месяц, і сонца,
І час дырыжыруе нашай зямлёй,
Змяняе яе ён нам выгляд бясконца,
Зямлю ўзнагародзіў прыродай жывой.
І стаў кіраваць час жыццём на планеце,
Істотам жывым даў ён старасць і смерць,
І, каб не загінулі, родзяцца дзеці,
А кветкі раслін навучыў ён ірдзець.
Каб колер прыкмецілі восы і пчолы,
І іх, запыліўшы, насенне далі,
Людзей навучыў час калісь стварыць кола,
А потым машыны, вазы, караблі.
Пасля ім памог збудаваць самалёты
І выслаць у космас разумных ракет,
Хадзілі па месяцы нават пілоты,
Адтуль аглядалі Зямлю і сусвет.
Напэўна, што часам кіруе з сусвету
Разумная сіла, Тварэц яго, Бог,
Якія дае Ён яму запаветы,
Ніхто разгадаць з нас пакуль што не мог.

## СУСТРЭЧА З ВЯСНОЙ

Адышоў з марозам люты,
Адышло зімы ўладанне,
І па рэчцы лёдам скутай
На вясны спяшу спатканне.
Лёд трашчыць мне пад нагою,
Цёплы вецер мне ў твар вее,
Уцякла зіма з пургою,
І не страшаць нас завеі.
Сонца грэе яркім бляскам,
І вясну вядзе з сабою,
Белыя з дрэў гінуць маскі
Над замёрзлаю ракою.
Сонца снег змяняе ў воду
І яна ўніз па галінах,
Па іголках белых з лёду
Кроплямі ляціць на льдзіну.
І па ёй плыве да рэчкі,
Залівае лёд цуркамі,
І блішчаць яны, як свечкі,
Крыгі рэжуць, як нажамі.
Крыгі гоніць рэчка ў мора,
Разам з ціхім цёплым ветрам,
Да вясны сустрэчы скора
Цёплае бяжыць паветра.
Я вясну з ім сустракаю
З бляскам сонечных праменняў,
Як дзяўчыну з караваем
У вясёлкавым адзенні.

## ЛЮСТРЫ ВЯСНЫ

Вясна ачысціла ўсе рэкі
Ад снегу, лёду і ад крыг,
Раскрыла сонца з хмар павекі,
Закончыла сезон адліг.
    Глядзіць у люстры рэк, азёраў,
    Блішчыць у іх вясновы твар,
    Смяецца радасна, бадзёра
    Зімы і холаду змагар.
Глядзяць у люстры з неба хмары,
Галіны дрэў паблізу рэк.
А ноччу месяц круглатвары,
І нават сціплы маладзік.
    У рэкі заглядаюць зверы,
    Калі прыходзяць піць ваду,
    І пры паводках вадамеры,
    Рыбак, які прынёс вуду.
Глядзяць мачэўнікі з чаротам
У люстра ставаў і азёр,
Лілеі на водзе з гаркотай
Ім шлюць з гарлачыкам дакор.
    Што чорным ценем закрываюць
    Усмешку сонца на вадзе,
    Бо побач вольха маладая
    На іх не можа пагляжзець.
Глядзць вясною ўсе жанчыны
У люстра на свой гладкі твар,
Ці паявіліся маршчыны,
Ці згінуў праз зіму загар.

## ЗАБЛУДЗІЛА НА ПОЎДНІ ВЯСНА

Заблудзіла на поўдні вясна,
Дзесь блукае па дрэннай дарозе,
Мучыць бель нас і дрэў сівізна,
Ледзякі над акном на марозе.
Мы чакаем вясны ўсе здаўна
І не бачым яе на парозе.
    А вясна дзесь зайшла ў гушчары
    І не можа знайсці добрай сцежкі,
    Бо не бачыць там сонца ўгары,
    І прыгожай ягонай усмешкі.
    Страшаць толькі яе камары
    І абсмаленыя галавешкі.
Больш нахабнаю стала зіма,
Як вясны ўжо пачула спазненне,
Стала страшыць усіх, як чума,
Бурай, ветрам, марозам, знішчэннем.
І засыпала дзверы ў дамах
Белым пухам, а нават каменнем.
    Ды вясна раптам сцежку знайшла,
    Каб прайсці хутка з поўдня на поўнач,
    Замятала па ёй, як мятла,
    І снег з лёдам тапіла раптоўна
    І загад сонцу ў небе дала,
    Каб свяціла і ярка, і роўна.
Зацвілі хутка ўсюды сады,
На лугах паявіліся кветкі.
Салаўі заспявалі, дразды,
І зяленымі сталі палеткі,
І пачуўся ўвесь свет маладым,
Нашы дзеці і нашы суседкі.

## ЭНЕРГІЯ ЦЯПЛА

Стаў веяць з поўдня цёплы вецер,
На поўнач уцякла зіма,
І холад павязла ў карэце,
Няма ўжо снегу на дамах.
    Растаяў ён на ўсіх дарогах,
    Паплыў вадою па лугах,
    Ля рэчак чуецца трывога,
    Бо хвалі б’юць па берагах.
Энергія цяпла расліны
Навокал будзіць да жыцця:
Зазелянелі ўміг галіны,
Смяецца ўжо на іх лісцё.
    З зямлі выходзяць хутка травы,
    З карэнняў пнуцца да цяпла,
    З пупышак кветкі вельмі жвава
    Ірвуцца рэзва да святла.
Іскрацца ўсе лугі вясёлкай,
Бялеюць вэлюмам сады,
На полі ў гнёздах перапёлкі
Выседжваць сталі маладых.
    Спяваюць над палямі птушкі
    І грэецца на сонцы кот,
    Вясёлыя гучаць частушкі,
    Іх слухаць вылез чорны крот.
Бабулька выйшла нават з хаты
І сонцу паказала твар,
Каб ёй на шчокі, як дукаты,
Нанесла залаты загар.

## ЛАСКІ ВЯСНЫ

Глядзі ў акно, мая красуня,
Няма ўжо снегу на двары,
Увесь загінуў ён за клуняй,
І сонца свеціць угары.
    За ноч зіма ўцякла далёка,
    Раптоўна згінуў белы снег
    І па зімы слядах навокал
    Відаць вясны чароўны бег.
Вось прынясе вясна нам сілы,
Надзею, радасць у жыцці,
Здавацца будзе нам, што крылы
Да лёту у нас пачнуць расці.
    З вясной забудзем нашы сваркі
    І ўвесь зімовы наш разлад,
    Віном напоўнім мы дзве чаркі,
    Хай запануе згода, лад.
Узмоцніць нам вясна каханне,
Між намі згінуць звады, гнеў,
І здзейсніць нашае жаданне,
Не будзем думаць аб мане.
    Уцешымся заўжды з табою,
    Як зойдзем у прыгожы сад,
    Як будзе там цвісці вясною
    Між яблынь, вішань вінаград.
Як там пачуем спевы птушак,
Пабачым кветкавы кілім,
То сядзем адпачыць пал грушай,
Забыўшы горычы зусім.

## РУЖОВАЕ СВІТАННЕ

Люблю ружовае світанне,
Як абуджаецца прырода
Пры ранніх птушак шчабятанні,
Якія цешацца пагодай.
Святло на ўсходзе яркім бляскам
Выходзіць з-пад зямлі фантанам.
На золак спаглядаю з ласкай,
Яго красой зачараваны.
З-за горкі знізу бляск ружовы
Нябесную малюе чашу,
А купал неба каляровы
Над лесам ззяе і над пашай.
На пашы бачу ўжо каровы
Пастух прыгнаў з суседняй вёскі,
І золак колерам ружовым
Пафарбаваў яго прычоску.
Ружовым бляскам ззяюць кветкі
На лузе, дзе ідуць каровы.
І за лугамі ўсе палеткі
Смяюцца колерам ружовым.
На гарызонце за гарою
Выходзіць знізу дыск чырвоны,
За ім ружоваю зарою
Зіхціць пажарам лес зялёны.
Чырвоны дыск змяняе колер,
Калі плыве ён да зеніту.
Вясёлкай свеціць луг і поле,
А неба радуе блакітам.

## ЗАХАД СОНЦА

Пляце каляровыя косы
На захадзе сонечны дыск,
Чырвоны паволі з адкосу
Спадае за лесам уніз.
Ён кідае пасмы на неба
Бліскучых рудых валасоў,
І вецер спраўляе малебен
З падмогай чужых галасоў.
Як дыск утапіўся за лесам,
І згасла святло ўсё ўначы,
Пад цемры шырокім навесам
Завухкалі ў лесе сычы.
Яснее нябесная чаша
Ад зорак, жывых светлячкоў,
І цемра навокал менш страшыць
Хоць з лесу чуць гуканне соў.
І раптам на ўсходзе заззяла,
І шар узляцеў залаты,
Плыве ён і бляскам метала
Яснее над лесам густым.
Загляне ў малы пералесак,
У люстра прыгожай ракі,
Якая плыве перад лесам,
Дзе страшаць у цемры ваўкі.
Пабачыць на беразе кветкі,
І птушак у гнёздах між дрэў,
Зірне на лугі і палеткі,
У вёсцы на клуню, на хлеў.

## УЧОРА, СЁННЯ І ЗАЎТРА

Багіня з нябёсаў Учора
Сусрэчу стварыла для  нас,
Паслала нам бога Амура,
Які нам кахання даў бляск.
І нам памагала быць разам
Паміж завірух, бліскавіц,
Ад нас адганяла заразы
Пры бліскax далёкіх зарніц.
У цемры дала нам паходню,
Каб мы не згубілі свой шлях.
Багіня, названая Сёння,
Да нас прыляцела, як птах,
І ёй аддала нас Учора,
І з новай багіняй цяпер,
Ідзём мы наперад бадзёра,
І з верай у добры намер.
Хоць сіл у нас менш з кожным годам,
Нас Сённа яшчэ беражэ,
І нават у дні непагоды
Яна нас заўжды сцеражэ.
Мы чуем яе дапамогу
У кожнай з пражытых хвілін,
Бо хоча, каб нашу дарогу
Не мучыў ні смутак, ні.сплін.
Ды бачу чакае нас Заўтра,
І  што, нам яно  прынясе?
Не ведаем, што мае ў кайстры
Багіня ў чароўнай красе.



**1994 г. Закапанэ. Марское Вока. Дзмітры Шатыловіч.**

# ЗАГАНЫ ЖЫЦЦЯ

## НЕНАСЫТНАСЦЬ

Заган знаходзім многа ў чалавека,
Не лёгка ў вершы іх пералічыць,
Сядзяць у ім ужо яны ад веку,
Не дазваляе ён ім уцячы.
　　Не можа выкінуць з сябе іх сілай волі,
　　Пазбавіцца з жыцця не здольны ён,
　　Яны яго трымаюць у няволі,
　　Як з зброяю салдатаў батальён.
Не аднаго з іх мучыць помсты злоба,
Расце пухлінаю на іх душы.
І ў лютасць замяняецца хвароба,
Смерць ворагоў – то помсты барышы.
　　А прагнасць стала грознаю заганай,
　　Ёй мноства заразілася людзей,
　　А ненасытнасць мучыць іх, як рана,
　　І не дае спакою ім нідзе.
Крадуць, збіраючы сваё, багацце,
І пераважна грабяць беднякоў,
Іх не пужае ярае праклятце,
Якое чуецца з усіх бакоў.
　　Іх ненасытная жывая гідра
　　Глытае ўсё чужое навакол,
　　Хапае ўсё, што можна ў іншых выдраць,
　　Без страху, што наступіць перасол.
Не чуюць жаху, што пасля іх смерці
Аставяць дзесь сваё багацце ўміг,
Не вераць, што іх душы возьмуць чэрці
І ў пекле будуць вечна мучыць іх.

## РАДЫ МАНЮКІ

Рады манюкі, што маюць уладу,
Хоць ашукалі мільёны людзей,
Да пацярпеўшых не маюць спагады,
Іх не цікавіць, хто гіне ў бядзе.
Вабілі многіх людзей многаслоўем:
Працай, свабодай, як зробяць мяцеж,
Ім падарылі пасля беспрацоўе,
Голад, карупцыю, дзікі грабёж.
Папрадавалі заходнім спрыцюгам
Фабрыкі, гуты за бесцань зусім,
Каб іх закрылі, яны, без натугі,
Як канкурэнтаў, нявыгадных ім.
Пры беспрацоўі, няпэўных заробках
Зменшыўся ўміг натуральны прырост,
Школы паўсюдна знікаюцьу вёсках,
Толькі расце ў кожнай вёсцы пагост.
Людзі за працай бягуць заграніцу,
Цешацца ўлады, што іх тут няма,
І падымаюць, як крылы арліца,
Цэны, падаткі, як прыйдзе зіма.
Хутка пабольшылі ўсім гады працы,
І прыраўнялі жанчын да мужчын,
Не прызнаюцца ў памылках паяцы,
Што беспрацоўе вядзе да руін.
Каб не было беспрацоўя ў дзяржаве,
Быў бы прырост натуральны ў людзей,
Не турбаваліся б людзі аб страве,
Грошы на школы былі б для дзяцей.

## МАЕ ПАЖАДАННІ

Больш не хачу сустрэць бяздомных
На скверах, вуліцах і ў парках,
Жадаю ім мець домік скромны
З пасцеллю, печкаю і чаркай.
Каб не ўміралі ад марозу
Яны зімою на дарогах,
Жадаю бачыць іх цвярозых
І сытых пры сваіх парогах.
Жадаю я, каб беспрацоўе
Людзей не мучыла ў дзяржаве,
Жадаю ўсім наўкол здароўя,
Каб не п’янелі на забаве.
Больш не хачу сустэць галодных
Дзесь у чарзе за цёплай ежай
У дзень дажджлівы, непагодны,
У бруднай зношанай адзежы,
Жадаю, каб ніхто на свеце
Не галадаў нідзе, ніколі,
Каб мелі ўсюды нашы дзеці
Яды і прысмакаў даволі.
Для ўсіх жадаю шанцавання,
Хто мучыцца яшчэ ў турботах,
Чароўнага ў сям’і кахання,
Жыцця ў спакою і пяшчотах.
Жадаю, каб усе надзеі
Для іх збываліся заўсёды,
Каб абміналі іх падзеі,
Якія прыняслі б нягоды.

## ВАРОЖАСЦЬ

Плыве варожасць па планеце,
Як паўнаводная рака,
Ахвяр збірае ў сетку смерці,
Як рыбу ў сетку рыбака.
Штодня ў Іраку, ў Пакістане
Ад бомб, гранат і ад свінца
З рук мусульманаў мусульмане,
Як мухі, гінуць без канца.
Суніт мардуе там шыіта,
Шыіт адпомсціць кожны стрэл,
Варожасць родзіць вахабітаў,
Растуць ахвяры з мёртвых цел.
Ізноў яны заканамерна
Мардуюць, гоняць хрысціян,
Бо пераследаваць няверных
Іх заахвочвае Каран.
Вядуць вайну ў Афганістане
Талібы некалькі гадоў,
Ад іх таксама ў Пакістане
Людзей нявінных льецца кроў.
І на прасторах Палестыны
Не палічыць вайны ахвяр,
На афрыканскія пустыні
Занеслі ворагі пажар.
У Мексіцы наркакартэлі,
Купаюцца ў крыві ахвяр,
Штодня ад іх забойчых стрэлаў
Там гіне не адзін жыхар.

## ЖЫХАРЫ ЗЯМЛІ

Мы, жыхары планеты нашай,
Калісь не ў госці мы прыйшлі,
Хоць позна пад нябеснай чашай
З'явіліся мы на Зямлі.
Былі прад намі дыназаўры,
Акулы, птушкі і звяры,.
Прыйшлі сюды мы не па лаўры,
А выкарчоўваць гушчары.
У гарадах тварыць харомы,
Садзіць сады, араць палі,
Прыродзе памагаць свядома,
Каб расцвітала на Зямлі.
Ды злосць з варожасцю між намі
Распальвалі вайны пажар,
І ён, як грознае цунамі,
Мільёны паглынуў ахвяр.
Тварэнні нішчыў нашай працы,
Рабіў крывавыя сляды,
Паліў прыгожыя палацы,
Масты на рэках, гарады.
Навокал нішчыў ён прыроду,
Палі ў пустыні замяняў.
Варожасць многія народы
Глытала ў войнах, як удаў.
І чуемся мы не заўсёды
Тут на Зямлі, як жыхары,
Калі варожасць між народаў,
Распальвае вайны кастры.

## ХЦІВАСЦЬ І СКВАПНАСЦЬ

Хцівасць і сквапнасць – хвароба нажывы,
Як эпідэмія, мучыць людзей.
Грабяць мільёны ахвар нешчаслівых
Злодзей, бандыт і махляр - багацей.
Іх не трывожаць гурты беспрацоўных,
Бедных, якія шукаюць яды,
Прагна абкрадваюць іх бяссэнсоўна,
Бачыць не хочуць навокал бяды.
Сквапна збіраюць гадамі багацце,
Хцівасць іх нават не знае граніц,
Іх не ўзрушаюць пратэсты, пракляцці
Бедных, бяздомных ля іх аканіц.
Граблі грабуць ім заўжды ў іх бярлогу
Крадзенае і чужое дабро,
Нават за гэта падзякуюць Богу
Перад іконаю і алтаром.
Злодзей, бандыт за грабеж і за хцівасць,
Траціць жыццё і трапляе ў турму,
Страціць усё, што награбіў зласліва,
Грош не пакіне ён сыну свайму.
Іншых дабро прамантачаць патомкі,
Як ім пакіне па смерці сваёй,
Не ацалеюць ад іх і абломкі,
Спаліць агонь гістарычных надзей.
З'явіцца з старасцю горыч сумлення,
Перад магілаю прыйдзе цішком,
Мучыць пачне безнадзейным сумненнем,
Што для людзей быў заўжды лайдаком.

## БЕСПРЫТУЛЬНЫЯ ДЗЕЦІ

Дыктатара з дзецьмі паказвалі часта
На сценах будынкаў, не раз у кіно,
Ад іх ён прымаў у Крамлі, быццам пастар,
Букет пекных кветак у зале з пано.
        Яны там стаялі ў прыгожым адзенні,
        Хлапец і дзяўчына з касой на плячах,
        Букет уручалі яму ў захапленні,
        Трымаючы ружы ў дзіцячых руках..
У той час я бачыў у цёмных падвалах
Там сотні малых беспрытульных дзяцей,
Якія па вуліцы беглі няўдала,
Прасілі капейку на хлеб у людзей.
        Бацькі іх памерлі даўно ў час блакады,
        Ці згінулі дзесьці на фронце вайны,
        Стварылі сіроты ў падвалах брыгады,
        І так пражылі тры зімы і вясны.
І раптам дыктатар загад даў кур’ёзны:
У лагеры ўзяць беспрытульных дзяцей,
Каб хутка загінулі ў месцах марозных,
За дротам у тундры здалёк ад людзей.
        Іх многа ў тайзе памірала ад працы,
        Капаючы золата і серабро,
        У той час дыктатар прымаў у палацы
        Дзяцей вельмі блізкіх партыйных сяброў.
Іх здымкі паказваў на сценах будынкаў,
А іншых мільёны ўмірала ў тайзе.
Змушаў, каб яму танцавалі лезгінку,
Яго ўсе міністры ў Крамлі па чарзе.

## КАХАНКА

Ты стала яго безразважнай каханкай,
Хоць знаеш, што мае ён жонку, дзяцей,
Іх ён не пакіне ні ноччу, ні ранкам,
Ніколі не будзеш ты з ім між гасцей.
Ён прыйдзе ў твой дом сам ад часу да часу,
Калі ашукае ён жонку, сям'ю,
Прыцісне цябе да грудзей, як акрасу,
Папесціць цябе, як каханку сваю.
Пачуеш яго ты тады вельмі блізка,
Хаця на цябе ён глядзіць, як тыран,
Ён лічыць цябе ўжо сваёй адаліскай,
Амаль, як калісьці турэцкі султан.
Чакаеш яго ты праз доўгія ночы,
Каб толькі зірнуць на яго мілы твар,
Глянуць у пасцелі ў каханыя вочы,
Якія зазззяюць табе, як янтар.
А потым чакаць можаш суткі ці тыдзень,
Калі зазвініць у кутку тэлефон,
Ён коратка скажа табе, калі прыйдзе,
Бо едзе ён з жонкай, з дзяцьмі ў пансіён.
Чакаць будзеш месяц з вялікай надзеяй,
Што вернецца ён і сустрэне цябе,
Быць можа, падарыць букет архідэі,
І ў вусны клюне цябе, як верабей.
І будзеш зайздросціць яго роднай жонцы,
Што мае яго пры сабе між дзяцьмі,
Што можа гуляць з ім па парку на сонцы,
Без сораму разам бываць між людзьмі.

## ВАР'ЯТЫ

Хваробы  розныя на свеце
Хапаюць бедных і багатых.
Не раз у пекных матак дзеці
Ад нараджэння ўжо вар'яты.
Аднак гразней, калі здаровы
Стае пасля псіхічна хворым,
Калі ён потым выпадкова
Наробіць людзям многа гора.
Калі ў метро падкіне бомбу,
Страляць пачне на стадыёне,
Ці падрыхтуе ён з апломбам
Тэракт у нейкім павільёне.
Калі стае ён педафілам,
Гвалтуе ўсіх дзяцей навокал,
Калі з бандыцкім ён нахілам,
Задушыць іх у дзікім шоку.
Найгорш, калі ў дзяржаве ўладу
Вар'ят захопіць нечакана,
Ніхто не знойдзе ў ім спагады,
Ніхто не будзе мець  пашаны.
Калі дыктатарам ён стане,
То пераменіцца ў сатрапа,
На усёй дзяржавы існаванне
Паганую  наложыць лапу.
Усіх навокал падазроных
Укіне ў лагеры і турмы,
А дасць прыхільнікам пагоны,
І побач знойдзе ён іх  гурмы.

## КАПЛІЦА АХВЯРАМ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Ля царквы збудавалі нарэшце капліцу
Праваслаўным ахвярам сусветнай вайны,
Што загінулі бліз беларускай граніцы,
Ад паплечнікаў злой ксенофобскай маны.
Забівалі яны беларусаў за веру,
Што хадзілі ў царкву, а не з імі ў касцёл,
А з падполляў прыходзілі ў вёску жаўнеры,
Каб яе замяніць у вялікі касцёр.
Так спалілі Патоку, Залешаны, Зані,
Канцавізну, Чыжы і Сыпні, і Шпакі,
Не мінулі і Вулькі Выганоўскай тыраны,
Пазіралі здалёк на пажар, як ваўкі.
Доўга шнарылі тут і „Лупашка", і „Буры"
І змушалі страляць у жанчын і дзяцей.
Нам каплічка прыпомніць перыяд пануры,
Як калісь мардавалі нявінных людзей.
Нам прыпомніць яна, як ля Старых Пухалаў
Каты „Бурага" ў лесе густым між кустоў
Мардавадi вінтоўкамі з вострым кінжалам,
І забілі там трыццаць сялян – вазакоў.
Нам прыпомніць, як з помсты калісьці фашысты
Беларускія вёскі Папоўку і Райск
Злосна сцерлі з зямлі і з людзмі ў дзень імглісты,
Толькі моладзь пагналі ў нявольніцкі „рай".
Нам прыпомніць, аб многіх ахвярах у вёсках,
У часы, як ішлі на Падляшшы баі,
Як людзей мардавала нямецкае войска,
І як грабілі потым сялян гультаі.
І хай кожны памоліцца тут за ахвяры,
Бо не ведаем нават, ці маюць пагост,
Многіх попел развеялі ветры ў пажары,
Як іх вораг да іх прымяняў халакост.

# МАЕ ПАДАРОЖЖЫ

## ЭОЛАВА АРФА Ў ПЯЦІГОРСКУ

У шэрай вільготнай вячэрняй імгле
Альтанка з Эолавай арфай плыве,
Паблізу тры пары стаяць на траве,
Цалуюцца ў месяца бледным святле.
Высока падняўся, як серп, маладзік,
І зверху глядзіць, як цалуюцца пары,
Над імі заззяў ярка Эльбруса пік,
І коле паблізу плывучыя хмары.
Паказвае Бештаў пяць вострых вяршынь,
Вышэйшая з іх – то вяршыня Машук,
З альтанкі даходзіў да іх арфы гук,
Хоць іх раздзяляла заўжды далячынь.
Тады яны музыку чулі з яе,
Якую іграў без прыпынку ім вецер,
Любіў ён занесці ім песні свае,
І ноччу, і ўдзень, і заўжды на дасвецці.
Тут слухаў Эолавай арфу паэт[1],
Які ў ссылку трапіў тады ў Пяцігорск,
Пасля на дуэлі ад кулі памёр,
Якога паэзію знае ўвесь свет.
Цяпер вось Эолава арфа маўчыць,
Прыходзяць сюды толькі шлюбныя пары,
Цалуюцца моцна пры ёй уначы,
І часам зайграе хто тут на гітары.

[1] Рускі паэт М.Ю. Лермантаў (1814-1841),
які згінуў у Пяцігорску на дуэлі.

## БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ

Гляджу на муры цытадэлі
І на Тэрэспальскую Браму,
Ля самалётаў рой шрапнелі,
Я помню ў час ваеннай драмы.
    Як бомбы з гэтых самалётаў
    З выццём грымелі над чыгункай,
    Снарады, кулі з кулямётаў
    Уверх ляцелі з пачастункам.
А потым танкі Гудэр'яна,
Ішлі ўвесь дзень і ноч да Брэста
Ля вёскі доўгім караванам,
І ўсё дрыжала ад пратэсту.
    Два дні грымела кананада –
    Грамы далёкія ў паветры
    І гукі выбухаў снарадаў
    Прыносіла нам рэха з ветрам.
Праз два гады зноў самалёты
Кідалі бомбы над чыгункай,
Лятаті нізка іх пілоты
З смяротным грозным падарункам.
    І зноў праз тыдзень кананаду
    Я чуў з-пад крэпасці здалёку.
    Не шкадаваў сваіх снарадаў
    Фашыст, ударыўшы з наскоку.
Гляджу на сцены казематаў,
На помнікі далёкай славы,
І спачуваю ўсім салдатам,
Што згінулі ў баю крывавым.

## У КРЫМСКІХ ГАРАХ

Хадзіў я горнаю дарогай
Па Крымскіх колерных гарах,
У прорвы заглядаў з трывогай,
Паміж абвалаў вёў мой шлях
 Там аглядаў я грады ўзгоркаў
 І любаваўся іх красой,
 Глядзеў, як выбегла вавёрка,
 І зноў пабегла ў сухастой.
Ішоў я з Ялты да Ай -Петры
Дарожкай вузкаю на ўсход,
Пры яркім сонцы цёплы ветрык
Даваў мне чысты кісларод.
 А з мора Чорнага чуў вільгаць,
 Хоць сонца ззяла і пякло,
 Я мокры, як баксёр на рынгу,
 Ішоў, хоць мучыла цяпло.
Зялёнымі наўкол чубамі
Віталі грабы і дубы,
Яйлы багатыя лясамі,
Растуць там букі і грыбы.
 А часта акружалі скалы
 Жывую крымскую сасну,
 Яе туды, як з карнавалу,
 Прынеслі святкаваць вясну.
Ад той пары ў ва мне ўспаміны
Жывуць праз доўгія гады,
Якія я там каляіны
Мінаў, калі быў маладым.

## ТРЫЯДА ІНДЫЙСКІХ БАГОЎ

Калісь я жыў між індуістаў,
Якія з глыбіні вякоў
Пранеслі веру самай чыстай,
У дзіўных вычварных багоў.
    Між сотнямі знайшлі плеяду
    Багоў магутных, добрых, злых,
    А між плеядаю трыяду
    Стваральнікаў людзей жывых.
Бог Брахма творцам быў сусвету,
Стаў бацькаю багоў, людзей,
Аберагае ён планеты
Ад непрадбачаных падзей.
    Другім з трыяды ёсць бог Вішну,
    Стаў захавальнікам Зямлі,
    У аватары ён, як Крышна,
    Прыйшоў і жыў з людзьмі калісь.
Раней быў рыбай, чарапахай,
І Рамай, Будай быў між нас,
Бываў ён нават богам жаху,
Тады прыходзіў грозны час.
    З трыяды трэці быў бог Шыва,
    Бог урадлівасці, аскет,
    Бог разбурэння, бог злаславы,
    Змяю насіў, як амулет.
У Гімалаях на вяршынях
Ён быццам жыў з сваёй сям’ёй...
Меў кожны бог сваю багіню,
А Шыва тры меў пад рукой.

# ПАМПЕЯ

Тут бачу страшныя падзеі,
Якія выйшлі з-пад зямлі:
Везувій злосны ўсю Пампею
Засыпаў попелам калісь.
Не шкадаваў з ёй ён Стабіі
І Геркуланум заадно.
Істоты гінулі жывыя,
Пад вулканічным талакном.
Ляжалі там, як у магіле,
Яны праз многія вякі,
Над імі гвалты і насілле
Тварылі ўлады, лайдакі.
І адкапалі іх нарэшце,
І ўбачылі мы, як тады
Там выглядала іх прадмесце,
Як будывалі гарады.
Пабачыў я пампгйскі форум
І статуі старых багоў,
Палацаў іх эліт дэкорум,
На сценах вешалкі з рагоў.
Дом пазалочаных Амураў,
Юпітэра чароўны храм,
Мазаікі на светлых мурах,
Адбіткі іх жыццёвых драм.
Гляджу на мур іх абароны,
Ісіды храм і храм Лароў.
Стаяць прыгожыя калоны
З фасадамі старых дамоў.

## БАЛГАРСКІ КАМЕННЫ ЛЕС

Каменны лес ёсць у Кітаі,
Ім цешацца ў Мадагаскары
А я з людзьмі ў каменным гаю,
Пад Варнаю быў у балгараў.
　　У дзіўнай сонечнай даліне
　　Стаяць каменныя калоны,
　　У сонца светлай павуціне,
　　Як капішча багоў каронных.
Адны падобнвя на слупы,
Другія нізкія, як вазы,
Іх кветкі дробныя, як крупы,
Абселі, ззяюць, як алмазы.
　　Падобны слуп адзін да трона
　　Другі подобны да жывёлы,
　　На трэцім слупе, як варона,
　　Чарнее камень з дзюбай кволай.
Далі калонам тым імёны:
„Салдат”, „Манах “ і „Трон”, і „Сторaж”,
І „Чорт” завуць адну калону,
Другую „Вадапад” – з дакорам.
　　Усе калоны з сталактытаў,
　　І ўсе ў сярэдзіне пустыя,
　　На мора дне даўно нібыта
　　Каралы ў іх раслі жывыя.
Адсюль паблізу ў маўзалеі
Запалены гарыць агеньчык,
Успамінаюць дзень падзеі,
Як згінуў тут кароль Варненьчык.

## ПІЦУНДА

Калі алімпійскія гульні спартсменаў
Праходзілі гучна ў далёкай Маскве,
Я з групай турыстаў праводзіў прыемна
Свой час у Піцундзе ў марской сіняве.
    Купаўся я ў моры, ляжаў там на пляжы,
    А ноччу гасціў нас прыгожы „Маяк”.
    Пах соснаў піцундскіх рабіў мне масажы
    У лёгкіх маіх, ап’яняў, як каньяк.
На пляжы стаяла царэўна Медэя,
Жалезная постаць глядзела на нас,
Ахоўвала нас і давала надзею,
Што пройдзе шчасліва ўвесь наш вольны час.
    Зірнула на нас, як плылі мы ў Сухумі,
    Як вёз нас аўтобус у Новы Афон,
    Раней магла бачыць, як плыў я ў Батумі,
    Да нас заглядала ў „Маяк” – да акон.
Калі нас павезлі да возера Рыца,
Яна нам павекай мігала здалёк.
Была нашым сведкам з Калхіды царыца,
Калі з намі плаваў па моры чаўнок.
    Паехалі мы ў санаторый Мацесту,
    Дзе лечацца людзі ў гаючай вадзе,
    І ездзілі ў Сочы і ў іншыя месцы,
    Абхазію ўсю мы маглі паглядзець.
З журбой развіталіся мы ўсе з Медэяй,
І ў Адлер папалі на аэрадром.
Адкуль самалёт паднябеснай алеяй
Прывёз нас пад вечар амаль пад наш дом.

## У ЦАРСКІМ СЯЛЕ

*Лене Кірэевай*

Зачараваны быў табой,
Калі ты нас цішком вяла
Крутой сцяжынаю вясной
Па парках Царскага Сяла.
        Блакітам неба ззяў палац
        У бляску сонца цэлы дзень.
        На дрэвы, на шырокі пляц
        Пяць купалаў кідала цень.
У сонцы золатам яны
Да нас смяяліся ўгары,
Віталі подыхі вясны,
Глядзелі ў воды, ў гушчары.
        Там, ля барочнага дварца
        Прыгожы кветкавы дыван,
        Навокал статуй у вянцах
        Нас чараваў, як талісман.
Пасля з эксурсіяй гурбой
Глядзелі залы ўсе ўнутры
Даведаліся мы з табой,
Як весяліліся цары.
        Знайшлі будынак мы тады,
        Дзе даўні царскі быў ліцэй,
        У ім жыў Пушкін малады,
        Сёння стварылі там музей.
Мы аглядзелі Арсенал,
І Вежу Белую і Грот ...
Пасля пайшлі з табой на бал,
І танцавалі вальс, факстрот.

# ЗМЕСТ

## ПРАЖЫТЫЯ ХВІЛІНЫ

## ПРЫВАБНАСЦЬ ПРЫРОДЫ

**ЗАГАНЫ ЖЫЦЦЯ**



**МАЕ ПАДАРОЖЖЫ**



**1967 г Дрэздэн. Д. Шатыловіч са знаёмай ля Цвінгера.**



**1980 г. Сухумі. Д. Шатыловіч на вуліцы.**

